Ля Ганцавіч стаіць аб'ект, страшнейшы за Чарнобыль. С.3


# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №2 (159) 10 СТУДЗЕНЯ 2000 г.


## Рэжуць коней, бо няма чаго есьці

Беларуская вёска бяднее, лічбы на гэты конт наўмольныя. У Магілёўскай вобласьці сёлета вытворчасьць сяльгаспрадукцыі зьнізілася амаль на 16%. Статак жывёлы скараціўся на 82 тысячы галоваў. Рэзалі нават коней — больш чым 2000. Бо няма чым карміць. Толькі блізу 65% ад патрэбнай кармавой масы назапашана. Прычым кармы ўдвая менш сытныя, чым трэба.

## Тым, хто крадзе, і тым, хто ловіць

Праект бюджэту краіны на 2000 год найбольш значныя выдаткі прадугледжвае на сельскую гаспадарку і праваахоўныя структуры. Выдаткі на органы парадку павысіліся ў 3 разы ў параўнаньні зь мінулым годам і складуць больш за 127 мільярдаў рублёў. Выдаткі на навуку будуць каля 38 млрд., а на прамысловасьць, энэргетыку і будаўніцтва — 24,5 млрд. рублёў. Памеры пазабюджэтнага фонду на падтрымку сяльгасвытворцаў падвысяцца больш чым на 450%.

## Калгас закадаваў алькаголікаў

І вось у адной з гаспадарак Бялыніцкага раёну вырашылі радыкальна разабрацца з п'янствам — старшыня прапанаваў калгасьнікам закадавацца ад залежнасьці ад пітва за грошы калгасу. Умова была адна: калі закадаваны калгасьнік усё ж вып'е, усе выдаткі будзе вяртаць дзесяцікроць. Прапанова вяскоўцам спадабалася. Амаль 20 чалавек пайшлі на такі крок. І пакуль ніхто не папаўся. Нават на Новы год.

Сымон Глазштэйн

# Хлопцам сумна


Расейцаў у Чачэніі забаўляюць зоркі эстрады. Як амэрыканцаў у Віетнаме...

## Чачэнцы прарвалі блякаду Грознага

*У Маскве паніка*

Не пасьпелі пасохнуць чарнілы на апошніх ельцынскіх загадах, не пасьпеў яшчэ Пуцін пагарцаваць у новай якасьці «выконваючага абавязкі», як Грозны разам з суседнімі аўламі Алхан-Кала ды Алхан-Юрт і горад Аргун ізноў цалкам перайшлі ў рукі чачэнскага войска. У расейскіх каляпалітычных і журналісцкіх колах ізноў загаварылі пра сцэнар 96-га году. Тады вялікая групоўка расейцаў была заблякаваная ў Грозным і зьнішчаная дазваньня...

Цяпер расклад сілаў усё ж іншы. Чачэнскіх жаўнераў значна менш, і ўся Чачэнія амаль зруйнаваная бомбамі. Аднак расейскі бліцкрыг не прайшоў. Чачэнцы прарвалі блякаду сваёй сталіцы. 3 і 5 студзеня прарывы адбыліся на ўсіх накірунках. У выніку перадавыя часткі расейскіх войскаў апынуліся зноў у аблозе. Толькі паводле афіцыйных зьвестак, перададзеных Інтэрфаксам, загінула 78 і паранена 155 расейцаў. Аднак нават самыя патрыятычныя агенцтвы Расеі ставяцца да гэтых лічбаў падазрона. Спалучаючы розныя зьвесткі, можна, аднак, зразумець тое, што страты з боку расейцаў узрастаюць удвая. Штодня гінуць і калечацца дзясяткі жаўнераў. Невыпадкова ў Маздок перакінулі сёньня й пераносны шпіталь «Скальпэль», створаны ў самалёце Іл-76. Зь ягонай дапамогаю, згодна з афіцыйнай расейскай вэрсіяй, вайскоўцы, якія атрымалі цяжкія раны, будуць апэратыўна дастаўляцца ў Расею. Але і раней параненых пасьпяхова звозілі авіяцыяй. А тут раптам «Скальпэль»...

Расейцы ды іхныя памагатыя на чале з крымінальнікам Гантэміравым, змушаныя адыйсьці на тыя пазыцыі, зь якіх да Калядаў, больш як тры тыдні таму, пачыналася аблога чачэнскай сталіцы. Больш за тое, чачэнскім сілам пашчасьціла правраціцца ў даўно «зачышчаныя» раёны. Напрыклад, узнавіліся жорсткія баі ў «спакойным» Старапрамыслоўскім раёне. Цяпер, атрымаўшы выйсьце з гораду, у раёне аула Каралы й станіцы Ярмолаўка, чачэнцы наўпрост злучыліся са сваім асноўным войскам у ваколіцах Урус-Мартана. Усёй гэтай пераможнай апэрацыяй кіравалі вядомыя камандзіры Арбі Бараеў і Шаміль Басаеў, пра якіх расейцы днямі абвясьцілі, што яны «забітыя»...

*Працяг на старонцы 5.*

# Пушкінскія Каляды ў Бабры

У новым стагодзьдзі я нарэшце адчуў смак і сэнс слова Каляды. Для гэтага трэ было сесьці ў электрычку аршанскага кірунку й паехаць у мястэчка Бобр, дзе жыве прыгожая пара Алеся й Яніны Пушкіных, і пачаць зь першым рухам цягніка прыемна зьдзіўляцца: вось у тваім вагоне, сярод дачнага й п'янога народу, у адным кірунку з табой едзе Вінцук Вячорка зь сям'ёй. Разам сысьці на станцыі Бобр і з паглядаў даўно знаёмых людзей адчуць, што табе тут рады. Значыць, ты прыехаў туды. Пазнаць пушкінскую хату па беларускім сьцягу над страхой і зразумець, што Алесь не зьбягаў з гораду, а вярнуўся туды, дзе можна адчуваць сябе гаспадаром сваёй радзімы.

Седзячы сярод мілых людзей з Бабру, Менску й Воршы, слухаючы старыя паганскія песьні пад гармонік з бубнам, узьнімаючы кілішкі з самагонкай «Бобр», разглядаючы карціны й абразы па сьценах і ўсьведамляючы, што ў Беларусі ў гэтую ж самую хвіліну не ў адной толькі гэтай хаце сабраліся беларусы за сьвяточным сталом, — у які ўжо раз зьдзівіцца — адкуль у гэтай краіне столькі мярзоты й бруду? Пасьля шумнай грамадою хадзіць па начным мястэчку, дзе ў большасьці хат будуць радыя пачуць: «Адчыняй варата, каляда прыйшла». Зьдзівіцца праспэктавай шырынею адной зь местачковых вуліц, і адчуць пашмат большае дзіва ад тлумачэньня гэтага сакрэту мясцовым гісторыкам. Аказалася, што я стаяў на самай сапраўднай Старой смаленскай дарозе, па якой адступала армія Напалеона. А сам палкаводзец загадаў менавіта ў Бабры спаліць свае зьняслаўленыя штандары. Скончыць шумнае шэсьце ў хаце Алесевых бацькоў і з радасьцю выпіць чарку з жывым «ворагам народу», Пушкіным-старэйшым.



І скончыць сьвяты вечар катаньнем на санках з высокага берагу рэчкі Бобр. З забытым недзе ў мінулым веку дурэньнем і бесклапотнасьцю.

А на раніцу ўжо зьдзівіцца ў баброўскай царкве, расьпісанай Пушкіным. Расьпісанай так, быццам тут працавалі два мастакі — майстра іконапісу й сямігадовы хлопчык зь неўтаймаванай фантазіяй. Вось уверсе па-над аблокамі Мікола-Цудатворца, ахоўнік падарожнікаў, а ўнізе марскі бераг, плыве параход пад бел-чырвона-белым сьцягам, ляціць самалёт з адпаведнымі колерамі на хвасьце, усплывае падводная лодка... Абраз нашага стагодзьдзя. А вось ля «Страшнага суда» зьдзіўленьню майму сапраўды не было межаў. Як думаеце, каго я ўбачыў у пушкінскім пекле? Едзьце, падзівіцеся.

Каляды — добрае слова. Яно смачна пахне марозам і дымам з комінаў. На Каляды як ніколі хочацца гаварыць людзям прыемнае. А па Калядах карціць дачакацца наступных. Як файна, што век толькі пачынаецца. І я ведаю, куды трэба ехаць сьвяткаваць наступныя Каляды.

Зьміцер Бартосік

## БЫКАЎ НЕ ВЯРТАЕЦЦА Ў БЕЛАРУСЬ

**Васілю Быкаву ўчора ў Бальшым тэатры ў Маскве ўручылі прэмію расейскага алігарха Беразоўскага «Трыюмф»** — ён разьдзяліў яе з расейскім драматургам Валодзіным, дырыжорам пецярбурскае Марыінкі Гергіевым і мімам Палуніным. Быкаў на цырымоніі сказаў што пакуль'ня вернецца ў Беларусь. У сёньняшнім нумары «НН» ён друкуе новую прыпавесьць, у якой наносіць моцны ўдар па беларускіх аптымістах. *Старонка 10.*

## СЕВЯРЫНЕЦ СПАДЗЯЕЦЦА НА БОГА

«Хрысьціянскі рух *на Маскву*, прычым менавіта зь Беларусі, будзе самым магутным ударам у сэрца імпэрыі «трэцяга Рыму». Выратаваць Расею духовай экспансіяй прасьвятленьня й пропаведзі — гэта табе не панічна-палітычныя ўцёкі ў NATO. Таму *ня бойся Расеі*. Мы, можа быць, збавім яе ад зла — з Богам». Лідэр Маладога Фронту Павал Севярынец заклікае да пратэстанцкай эвангелізацыі беларускага руху і адмаўляе палітычную барацьбу. Яго прасякнуты дзевятнаставечным мэсіянізмам ліст напэўна выкліча запеклую дыскусію. *Старонка 11.*

# СТАНЦЫЯ КОШТАМ У 10 МІЛЬЁНАЎ ЖЫЦЬЦЯЎ

***Памочнік міністра абароны Беларусі Юры Партноў паставіў адкрыцьцё радыялякацыйнае станцыі ранъняга папярэджаньня аб ракетным нападзе пад Ганцавічамі ў залежнасьць ад таго, «наколькі далёка зойдуць ЗША ў плянах стварэньня нацыянальнай сыстэмы супрацьракетнай абароны», паведаміла Радыё Свабода.***

Што ж нябозе-Беларусі да амэрыканскай проціракетніцы? Небясьпеку для Беларусі сп.Партноў патлумачыў гэтак: "Беларусь у адным хаўрусе з Расеяй, і мы будзем падтрымліваць усе намаганьні Расеі ў справе ўмацаваньня ейнае бясьпекі". Расея лічыць, што пляны ЗША супярэчаць дамове па супрацьпаветраным узбраеньні, падпісанай у 1972 годзе. ЗША ж пераконваюць, што ў цывілізаванага сьвету няма іншага спосабу застрахавацца ад магчымай пагрозы з боку патэнцыйна тэрарыстычных ці нестабільных краін з дыктатарскімі рэжымамі (якія цяпер ужо, выкраўшы ці распрацаваўшы, маюць ракетныя тэхналёгіі і зброю масавага забойства), апроч як стварыць вельмі надзейную сыстэму супрацьракетнай абароны. Дамова 1972 году распрацоўвалася пад тагачасны двухполюсны сьвет. Прадугледжвалася, што ні ў Амэрыкі, ні ў Саветаў ня будзе добрай проціракетніцы — гэтак абодва будуць голыя і будуць баяцца нападаць на іншага, ня маючы як абараніцца ад удару ў адказ.

Зараз, калі Амэрыка не адмовіцца ад плянаў умацаваньня бясьпекі Захаду, Расея абяцае прыняць "адэкватныя меры". Гэта ня будзе набліжэньне расейскіх стратэгічных ракетаў у заходнім кірунку на 500 беларускіх кілямэтраў — што магло б мець адно сымбалічнае, а не прынцыповае значэньне. Крэмль пастанавіў забясьпечыцца інакш — адкрыць станцыю пад Ганцавічамі. Пабудова там гатовая на 95%, а агульная гатовасьць станцыі да чыннасьці — на 80%. Будуюць яе ўжо дзесяць гадоў, працуюць збольшага расейскія спэцыялісты. Будоўлю замарозілі ад 1992-га, калі меркавалася, што расейскія войскі пакінуць Беларусь, але аднавілі за Лукашэнкам. Міністар абароны Расеі Ігар Сяргееў пад час леташняга візыту да нас хваліўся, што станцыю паставяць «на баявое дзяжурства» ў 2000 годзе. Грошай за яе арэнду наша дзяржава мець ня будзе, бо правы ўласнасьці на станцыю перадала Маскве.



Фота Анатоля Клешчука

Станцыя пад Ганцавічамі — вялізны аб'ект радыёлякацыйнага сачэньня за паветранай прастораю па-над усёй Эўропаю, аж пад Атлянтыку, ад Гібралтару да Скандынавіі.

Былы міністар абароны Беларусі Павал Казлоўскі ў інтэрвію Радыё Свабода сказаў, што дзеля бясьпекі самой Беларусі станцыя непатрэбная, але як элемэнт абароны Расеі яе цяжка пераацаніць. Бо аналягічную станцыю ў Скрундэ (Латвія) дэмантавалі, а пад Ужгарадам (украінскае Закарпацьце) спынілі будаваць — яны экалягічна не бяз шкоды, а палітычна нясуць пагрозу пад'ярэмленьня гэтых краінаў Расеі. Беларусы ж панура брыдуць да Масквы ў заклад.

Станцыя і недабудаваная стала інструмэнтам шантажу сьвету ядзернай Расеяй (прычым беларускімі вуснамі). Дабудаваная, яна некалі можа абысьціся Беларусі ў 10 мільёнаў жыцьцяў — кошт нашмат большы за той, што краіна заплаціла ў 1709-м, і 1812-м, і 1915-м, і 1944-м.

Пратэстаў з боку беларускіх пацыфісцкіх і экалягічных арганізацыяў пакуль не было.

**Барыс Тумар**

лісты ў рэдакцыю

## Мяжа і дом

*У дзень выбараў расейскай Думы выступаў у эфіры НТВ былы прэм'ер Кірыенка. Адказваючы на пытаньне пра вайну ў Чачэніі, ён з удаванай рашучасьцю заявіў, што для аднаўленьня прыніжанай расейскай «гордасьці» трэба «дабіць бандытаў у Чачэніі».*

*Як і каго дабіваюць расейскія войскі, паказалі крывавыя падзеі ў Алхан-Юрце, дзе жорстка зьнішчаныя дзясяткі мірных жыхароў. Можна не сумнявацца, што ў Чачэніі такіх Алхан-Юртаў не адзін і ня два. Выходзіць, што «гордасьць» патрабуе людзкой крыві.*

*Прырода годнасьці беларусаў і людзей на Захад ад Беларусі іншая. Тут прадмет і падстава нацыянальнай годнасьці — уласны катэдж, аўтамабіль, своя справа, якая дазваляе забясьпечыць дабрабыт сям'і, карацей, уласны ДОМ. Калі ўсё гэта ёсьць, дык у чалавека, натуральна, зьяўляецца нагода ганарыцца дзяржавай, якая стварыла ўмовы для заможнага жыцьця яе грамадзян. Нездарма перад многімі дамамі ў Канадзе, Англіі, ЗША лунаюць нацыянальныя сьцягі, а над уваходнымі дзьвярыма прымацаваныя нацыянальныя гербы.*

*Бяда Расеі ў тым, што такога ўтульнага ўласнага ДОМУ ў расейцаў няма. Таму замест упарадкавання ўласнай краіны, сілы кідаюцца на экспансію.*

*Раней я часта езьдзіў у Маскву. Хаця афіцыйнай мяжы паміж Беларусяй і Расеяй не было, рэальна яна выяўлялася вельмі дакладна. Едзеш улетку цягніком. Паабапал чыгункі трава скошаная, стаяць стагі — гэта Беларусь. Вакол чыгункі бур'ян ростам з чалавека — гэта Расея. Падворкі «пад шнур» агароджаныя акуратным штакетнікам — яшчэ Беларусь. Платы зьлепленыя абы-як з розных па шырыні і вышыні дошак — пачынаецца Расея.*

*Яшчэ ўспамінаецца, як у канцы 80-х, у гарбачоўскія часы на адным са зьездаў дэпутат з Кастрамы ці з Разані ўпікаў прыбалтаў за іх імкненьне да свабоды. Ён ніяк ня мог зразумець, чаго яны хочуць: «Мы тут у Расеі жывем шмат горш за вас і маўчым. Што вам не падабаецца?» А яны хацелі толькі аднаго — мець свой ДОМ, куды не заходзіў бы сусед з аўтаматам і не вучыў, як «правільна» ставіць платы і абкошваць дарогі. З-за таго, што ў Расеі няма свайго ДОМУ, яны сёньня бураць чачэнскі ДОМ. Відаць, нездарма іх партыя «Наш дом — Расея» не набрала на апошніх выбарах галасоў.*

**Валеры Пальсцюк, Менск**

## Ці пераступяць «Балтыйскія хвалі» праз палітычную ангажаванасьць?

*Прачытаў у першым нумары "НН" артыкул "Папса" Аляксандра Ўрбановіча і падалося мне, што аўтар ня мае рацыі. Наезд на "Маладзёжны канал" (якім бы дрэнным той ні быў) не абгрунтаваны. Па-першае, чый канал? — расейскі! Таму й прапагандаваць ён будзе расейшчыну. (Дарэчы, сам чуў, як нейкі ды-джэй заклікаў беларусаў дасылаць туды кампакт-дыскі беларускіх камандаў.) Па-другое, аўтар піша, што кожны другі званок на "МК" — зь Беларусі. Маўляў, "бліжай, чым праз Маскву, ім, мабыць, неспадручна!.."*

*Няма тут ніякага "страмлення нашых народаў к ядзіненію". Жывучы ў такім горадзе, як Баранавічы, ці якіх Ляхавічах, гэта выдатна разумееш. Паглядзіце на званкі — амаль няма зь Менску, усе яны зь невялікіх мястэчак і гарадоў. Бо няма ў нас сваіх FM-станцыяў, як у Менску ці якім Магілёве, Берасьці. У Расеі вакол кожнага абласнога гораду за эфір змагаюцца 2—4 станцыі. І моладзі зь якой Браншчыны тэлефанаваць у далёкую Маскву таксама няма сэнсу — сваё побач. Наша ж моладзь з правінцыі карыстаецца тым, што мае. А калі ігнаруе дзяржаўныя радыёстанцыі, ну дык...*

*Добра, што зьявіліся "Балтыйскія Хвалі". Маю надзею, што здолеюць яны пераступіць праз палітычную заангажаванасьць і стварыць сапраўдную эўрапейскую станцыю, якая аб'яднае вакол сябе беларускую моладзь. Тады саўкі застануцца з расейскай папсой, а астатнія пачнуць слухаць беларускі й эўрапейскі рок — гэта й будзе дэмакратыяй і канкурэнцыяй.*

**Руслан Равяка, Баранавічы**

## Мар'іна Горка ня горшая за Сьветлагорск

*У нумары ад 20 сьнежня мінулага году ў артыкуле «Мой сьветлы горад» была выказана думка, што Сьветлагорск «лепшы горад у Беларусі -- тут няма помніка Леніну». Сам я родам з Блоні (гэта каля Мар'інай Горкі). Дык вось жа, я сьцьвярджаю, што лепшы горад — гэта Мар'іна Горка. Тут помніка правадыру ўсясьветнай галайстры няма ўжо другое дзесяцігодзьдзе. Так! Каменную глыбу з нацысцкім ускідам рукі з пляцу паміж райвыканкамам і будынкам райкаму зьнесьлі ў сярэдзіне 80-х. Тады спатрэбілася рэканструяваць будынак раённага дому культуры, і абгаджаны нацыяналістычна настроенымі варонамі помнік некуды прыбралі. Відаць, каб не раздушыў яго які-небудзь бульдазэрыст, кіраваны голасам продкаў. І вось дзіва! Да сёньняшняга дня няма ў Мар'інай Горцы жалезабэтоннага клясыка* марсізму-лунанізму. *Можа таму тут такі моцны Малады Фронт.*

**Анатоль Грыхуцік, Менск**

## Не літоўска-беларуская, а беларуская

*Яшчэ й дагэтуль ёсьць у нас гісторыкі, якія называюць ВКЛ Літоўска-Беларускай дзяржавай, маючы на ўвазе, што ВКЛ належала ў першую чаргу жамойтам, а не беларусам. Матыў зразумелы — жаданьне не пакрыўдзіць нашых суседзяў. А ў чым крыўда? Жамойты не былі гаспадарамі ВКЛ. Іхная культура ніяк не ўплывала на агульнае аблічча ВКЛ, і суб'екты іх нацыянальнага жыцьця не выходзілі далей гэтага жыцьця, не рабіліся агульнымі для ВКЛ.*

*Называючы ВКЛ беларускай дзяржавай, мы называем рэчы сваімі імёнамі. І гэта ніякая ня крыўда. Жамойты хочуць, каб іншыя іх паважалі і клапоцяцца пра свой маральны камфорт. Сумняваюся, што яны пры гэтым самі імкнуцца «нікога не пакрыўдзіць» і самі называюць ВКЛ Літоўска-Беларускай дзяржавай. Упэўнены, для іх ВКЛ — адназначна Летувіская дзяржава, а Беларусь — толькі правінцыя гэтай дзяржавы.*

*Лічу, што ВКЛ можна называць толькі «Беларуска-Літоўскай дзяржавай».*

**Віталь Станішэўскі, Менск**

## Калядныя ўспаміны пра бабулю Зоню

*Койданаўскі Кальвінскі Збор аказаўся нетрывалы, як і ўся матэрыя. Напачатку тыя пабудовы былі і як храм, і як школа, і як асьветны цэнтар, і як крэпасьць. Ці праўда, ці не, але старыя койданаўцы кажуць, што яшчэ да вайны быў падземны пераход з Кальвіншчыны аж да Рубяжэвічаў (гэта кілямэтраў з' дваццаць), куды набожныя бабкі хадзілі да касьцёлу. Пераход той асьвятляўся і вэнтыляваўся.*

*Ці хадзіла я па тэй Гаштольдавай гары, ці бачыла тыя равы ды замкі — ня памятаю... Мо й не ступала там мая нага, бо не адгукаецца родным болем у душы тая мясьціна, як, скажам, адгукаецца Востраў.*

*— О. да нас усе йшлі адусюль, бо ў хаце музыка была, і ўсе сьпявалі, — прыпомніць Бабуля Зоня даўнейшую вольніцу ў Востраве, калі мы зь Веранікай паехалі да яе ў адведкі на Каляды.*

*— А якая ў Вас музыка была?*

*— Усякая. І мандаліна, і гітара, і скрыпка, і гармошка.*

*— А якія Вы песьні сьпявалі?*

*— Усякія. І рэвалюцыйныя, і калядныя, і вельканоцныя.*

*Але і з Кальвінскага Збору не чуваць было нашых песень, бо гэта была спроба прышчапіць хоць і правільную, але чужую культуру для нашага Краю. Разбурыўся Кальвінскі Збор, бо вечныя толькі тыя пабудовы, якія будуюцца на вякі. Храм душы — вось тое вечнае збудаваньне, якое, як Максімаву «Пагоню», не разьбіць, не спыніць, не стрымаць.*

*І ў нас, на нашай сустрэчы беларусаў-ліцьвіноў «Літва-99», была «Пагоня» зь вершнікам на белым кані. Па маёй просьбе Віталік вышыў яе з старых палітонаў, што назьбірала за сваё доўгае жыцьцё Бабуля Зоня. Лепшыя Ёгі — гэта мае бацькі, а найлепшы Ёг — Бабуля Зоня. Прызнаюся я тут сваім чытачам у гэтай ісьціне, хоць і была ня раз бітая сваімі блізкімі ўсяго толькі за тое, што імкнулася ўзаконіць тыя нормы маралі, па якіх яны папраўдзе жылі. Бабка Зоня змагла дажыць у гэтым вар'яцкім сьвеце аж да 88 гадоў, а галоўнае — захаваць і ясны розум, і ясную памяць толькі таму, што, дзякуючы галыцьбе й нястачы, напоўніцу мабілізавала свае нутраныя рэсурсы, так як гэта рабілі індыйскія Ёгі — нашыя далёкія пращчуры...*

*— Гэта ж такое Дабро! Дабро прападае! — казала яна на старыя, паедзеныя мольлю анучы, што гнілі ў ейным сутарэньні.*

*...Такой, мабыць, я й запомню яе... Прыехалі мы зь Міколкам ды Веранікай памагчы ёй дастаць тое дабро з сутарэньня. І Вось Бабуля сабрала апошнія сілы, бо ёй і па хаце хадзіць надта цяжка, і, нязграбна махаючы рукамі, нібы параненая птушка крыльлем, паляцела з трэцяга паверху ў вырай. І дасталі мы тое дабро. Пасьля, як наведвалі Бабулю, усё цягалі зь Менску ў Койданава тыя анучы, якія Бабуля кожную старанна перамыла, перадзьмухала, «каб не валачы цьвіль табе ў хату». А мой сын Віталік выштукаваў з тых анучаў раскошны палавік на нашую цэмэнтавую падлогу ў новы пакой і ўжо згаданы дыванок з Пагоняй. Ну й выдатна! Бо дзе ж тут набярэсься тых мільёнаў на крамныя чужыя дываны?! А тут жа — душа ўкладзена, а галоўнае — Бабуліна Праца не прапала. Яна нават памаладзела ад Радасьці, калі я сказала, якое прымяненьне я знайшла ейнаму дабру. Радасьць — гэта завершаны дах збудаванага Храму Душы. Такія вось носьбіты старых завершаных духаў, як Бабуля, патрэбныя дзеля Брацтва, таму Бог і даў ёй такі доўгі век на Зямлі, хоць такія патрэбныя й на Небе. Зрэшты, жывучы на Зямлі, яны ўжо супрацоўнічаюць з Космасам.*

*Заставалася яшчэ адна напаўразбураная будыніна з ансамблю Кальвінскага Збору на пачатку XX ст. Там зьбіраліся сацыял-дэмакраты — гэткія шумныя людзі, якія ўжо ведалі, што нешта трэба рабіць дзеля Агульнага Дабра. А з прыходам бальшавікоў і тую будыніну разабралі, расьцягалі. Пасьля, як расказвала мне Віталькава настаўніца Валерыя Антонаўна, і саму Гаштольдаву гару двойчы зразалі экскаватарамі: у 60-я і 80-я гады. Добра, што намаганьнямі Лявона Ліпеня паставілі памятную шыльдачку: «Міністэрства культуры БССР. Помнік археалёгіі Гарадзішча. Ахоўваецца дзяржавай». Хоць, здаецца мне, на момант устанаўленьня шыльды БССР ужо не існавала. Але ўсё ж добра, што паставілі знак, як вартаўніка ля вечных каштоўнасьцяў, бо дзе б мы страчаліся на Каляды з Адамам Міцкевічам? Лявон Ліпень, добраткі паўшчуваўшы мяне за маю ці то дзіцячую, ці то дзявочую легкадумнасьць, сказаў нарэшце, што ня варта шкадаваць камянёў Кальвінскага Збору. І я зь ім цалкам згодная, што ня варта шкадаваць, бо першасная ёсьць Думка. А ў душы ўсё ж шкадую тое каменьне Кальвіншчыны...*

**Ганна Матусэвіч, Койданава**



Фота Анатоля Клешчука

# ДЖАЗ, ПЭРФОМАНС, КАМУФЛЯЖ — СУПЭРВОБРАЗ, СУПЭРНАШ!

***5 студзеня з шасьці вечара да 12 ночы ў шкляным корпусе старога менскага аэрапорту праходзіў першы тур акцыі «Супэрвобраз XXI — Гук, Колер, Форма»***

Было шмат чаго: паэт Юры Гумянюк пад гукі флейты чытаў вершы, літкрытык Г.Кісьліцына ці не ад хваляваньня гаварыла са сцэны па-расейску, Тэатар Псыхічнай Неўраўнаважанасьці паказаў пэрфоманс «Мармуровыя псэўдаанёлкі» (галоўны псыхічна няўстойлівы Гальляш Сін пры канцы дзейства разьбіваў антыкварны прайгравальнік з кружэлкай і скідаў яго ледзь не на галовы гледачоў — але, дзякуй Богу, абышлося без ахвяраў); Анохіна іграла на цымбалах, Кляшчоў — на саксафоне, а група «Дыліжанс» — джаз; чытаў са сцэны свае вершы Альгерд Бахарэвіч, колішні пралетар-трактаразаводзец з рок-каманды «Правакацыя»; былі рэпрэзэнтаваныя архітэктурныя, музычныя і тэлевізійныя праекты. Але, бадай, самым галоўным пэрфом-праектам акцыі былі міліцыянты. Бадай, іх было ня меней, чым гледачоў і ўдзельнікаў мерапрыемства. Яны былі ўсюды: сярод цывільных, перад сцэнамі і за сцэнамі, па пэрымэтры і пасярэдзіне. Яны дэманстравалі нам Гук сваіх рацыяў, Колер пярэстых бушлатаў, Формы кнырскіх фігур. Ствараць супэрвобраз XXI стагодзьдзя ім дапамагалі пажарныя начальнікі, кабета ў белым халаце з бэджам, пэрсанал аэрапорту, цывільная ахова мерапрыемства і дзьве-тры групы падазрона аднамерных мужычкоў у аднатонных касьцюмчыках. А вось абяцаных у запрашальніку піва-чыпсаў не было. Падурылі. Дзеля гэтай «засады» заўважаная на акцыі рэінкарнацыя Лёліка Ушкіна бегала піць піва ў краму, а Гальляш Сін пранёс белую, разбаўленую градусам джыну. Але й бязь піва публіка інтэнсыўна спусташала вітрыну бару, паглынаючы булкі, кексы, піражкі, печыва, запіваючы ўсё гэта мінэралкай ды колай. Відаць, у XXI стагодзьдзі супэрвобразам Беларусі будзе заставацца жарлівы расейскамоўны плебей і мент з гумай.

**Славамір Адамовіч**

## Альбом пра Лучанка



Дзяржаўнае аб'яднаньне «Белканцэрт» і фірма «Каўчэг» выдалі шыкоўны фотаальбом, прысьвечаны Ігару Лучанку. Народны артыст СССР Лучанок ніколі ня быў беларускім нацыяналістам, але заўсёды патрыётам Беларусі, і напісаў песьні «Мой родны кут», «Спадчына», «Жураўлі на Палесьсе ляцяць», а таксама «Ave Maria» на словы Пазьняка. У альбоме надрукаваны ўрывак з кнігі «Басанож па зорках», якую напісаў пра кампазытара дзіцячы пісьменьнік Уладзімер Ліпскі.

## Лукашэнка-сьвістун

У менскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна праходзіць Рэспубліканская выстава народнай творчасьці. Майстры-самародкі з усяе Беларусі паказваюць традыцыйныя й асучасьненыя ручнікі, строі, посуд, лялькі, скарбонкі. Лепшы экспанат — сьвістулька, надта падобная да Лукашэнкі.

## Midsummer Night's Dream

У Купалаўскім адбылася прэм'ера спэктаклю паводле п'есы Шэкспіра «Сон у чарадзейную ноч пасярэдзіне лета». Паставіў яго рэжысэр з Чарнігава Андрэй Бакіраў. У галоўных ролях выступаюць Зоя Белахвосьцік, Мікалай Кірычэнка і маладыя акторы Купалаўскага. Гэта першы для Нацыянальнага акадэмічнага тэатру і ўвогуле для Беларусі выпадак, калі для пастаноўкі ангажуецца замежны рэжысэр. Андрэй Бакіраў быццам бы мае атрымаць ганарар у 5 тысячаў даляраў: айчынным рэжысэрам столькі ня плацяць.

**Юрась Барысевіч**

дзе варта быць

## Тытунёвы дэбют

Сярод аднастайнай чорна-чырвонай гамы менскіх афішаў мінулага тыдня самым стылёвым быў ярка-фіялетавы анонс узнагароджаньня лепшых прадстаўнікоў балетнай сцэны Беларусі прызам «Phillip Morris Дэбют» — крыштальнай прызмай з вытанчанай выявай ног балерыны. Ну і, вядома, грашыма. Сусьветна вядомы вытворца цыгарэтаў ладзіць акцыю ў падтрымку культуры і мастацтва ў Беларусі. Узнагароджваць будуць у Тэатры балету 16 студзеня а 19 гадзіне. Пасьля пакажуць ажно два спэктаклі: «Сон у летнюю ноч» ды «Кармэн-сюіту».

## Выстава

У вочы кідаецца яшчэ адна афіша, што праўда — невялічкая, з рэпрадукцыяй, на якой — выява карціны са сланечнікамі. Ван Гог? Крыху падобна, але ня тое. Гэта Аляксандар Шастакоў. Ягоная выстава ідзе ў Палацы мастацтва. Адчыненая яна ажно да 30 студзеня з 11 да 19 гадзіны.

## Джаз у саркафагу

Адгадайце, што гэта за адрас такі: Кастрычніцкая плошча, 1? Бадай, амаль няма менчукоў, якія б ня бачылі той гмах — Палац Рэспублікі, што часам завуць саркафагам. На самым пачатку наступнага тыдня ў ім распачынаецца сёмы міжнародны фэстываль джазу «Менск-2000». Рэй вядзе аркестар Міхала Фінбэрга, але выступяць і замежныя госьці. 17 студзеня будзе адкрыцьцё, на якім выступіць сьпявачка зь Нямеччыны Паскаль фон Урублеўскі ды біг-бэнд фінбэргаўскага аркестру. 18-га — «Віртуоз трамбону» — бэнэфіс саліста аркестру Зьмітра Бударына. Закрыцьцё фэстывалю — 19 студзеня. Грае «DTS-бэнд» на чале з бас-гітарыстам Аляксандрам Каліноўскім, ды Дайнюс Пулаўскас разам з «Jazz-sextet» зь Летувы.

## Абанэмэнты Філярмоніі

Пачытаеш анонсы філярманічных абанэмэнтаў для дзяцей, ды міжволі задумаесься: і чаго не хадзіў на іх у маленстве? Можна было даведацца шмат цікавага. Бацькі, зважайце: не зашкодзіць часам звадзіць дзетак у Канцэртавую залю. На гэтым тыдні вядзе абанэмэнты музыказнаўца Анатоль Парэцкі. 15-га а 16 гадзіне ён раскажа пра дзіцячыя гады Моцарта, а 16-га ў гэты ж час — пра тое, як, чаму і калі зьявілася такая музыка, як марш.

## Суд

І зноў не абысьціся без «запрашэньня на суд». Цяперашнія суды надта драматычныя, у іх шмат і філязофіі, і палітыкі, і нават культуры, толькі крымінальную часта бракуе. Затое ў такіх працэсах нібы агаляецца ўся нэрвовая сыстэма цяперашняга рэжыму, а ахвочыя пабачаць на іх і сам лёс Беларусі. Сказанае наўпрост тычыцца працэсу над былым міністрам сельскае гаспадаркі краіны Васілём Лявонавым, чый «Ліст да Лукашэнкі» вяртае нас да традыцыяў беларускай палемічнай літаратуры сярэднявечча. Гэты задоўжаны працэс адновіцца ў Менску заўтра, 11 студзеня. Нібыта ўжо на гэтым тыдні можа быць абвешчаны прысуд. Пракурор патрабуе для экс-міністра восем гадоў калёніі ўзмоцненага рэжыму. Абаронцы патрабуюць апраўдаць Лявонава.






***Адам Глёбус першым у гісторыі беларускай літаратуры напісаў кнігу афарызмаў, грэгерыяў, максымаў і цытатаў з камэнтаром.***

***«Кантамінацыі» — новая кніга з нашаніўскай сэрыі «Бібліятэка «Вострая брама». Пытайцеся на сядзібах ТБМ і БНФ «Адраджэньне», у кнігарнях асяродкаў Маладога Фронту.***

БТ вачыма беларуса

# УРОКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Кароткамэтражны фільм "Урокі беларускай мовы" быў, як і трэ было чакаць ад мастацкага кіно, ня тое каб пра беларускую мову. Даволі неблагі беларускамоўны фільм пра каханьне местачковага падлетка да маладой настаўніцы. 1939, Заходняя Беларусь. Настаўніца зь беларускім прозьвішчам прыехала з Усходу. Хлопец ёй спадабаўся, але раману ня выйшла, па вайне хлопец сам стаў настаўнікам, а агнаю была навучыцельна так, відаць, па-беларуску й не навучылася... Як і большасьць аніматараў праграм Беларускага тэлебачаньня, трэба зазначыць.

А на гэтым тыдні будзе пара *a priori* цікавых пазнавальных праграмаў. Панядзелак і аўторак а 16-й у сэрыі "ТБ — школе" будзе пра рэлігію й гісторыю беларускіх земляў X—XIII ст. ды пра лірыку Багдановіча. З паўторам на наступную раніцу. У сераду ў 16.40 фільм пра маёнтак Чапскіх.

У гэты ж дзень тэма каналаў "Добрай раніцы" і "Добры вечар, Беларусь!" — беларуская імёны на мапе сьвету. Калі маеце што цікавае дадаць да сюжэтаў і размовы ў студыі — званіце ў жывы эфір. Дарэчы, у кіраўніцтва БТ была думка з Новага году зачыніць праграму "Добры вечар!" Пакуль не зачынілі, хто жадае падтрымаць ці параіць аўтарам чаго карыснага — пішыце на Макаёнка 9.

У пятніцу позна ўвечары пакажуць навагоднюю гулянку ў Менску — Новы год на Кастрычніцкай...

У чацьвер, як звычайна, "Акаляда", у суботу — "Абібок", у нядзелю для аўтамабілістаў з карыснай інфармацыяй "Аўта-парк". А замест звычайных па суботах тыднёвых вынікаў беларускага гітпараду — фэстываль кліпаў "Музычная манаграма-99". Пазнавата, на жаль, у 0.30.

А ўвечары ў нядзелю — новая музычна-забаўляльная праграма "Сталічны гіт", што выйдзе замест *"Бархатнага сэзону"*.

**Арцём Лук'яновіч**



Конкурс **«СУПЭРВОБРАЗ XXI СТАГОДЗЬДЗЯ»** ладзілі Саюз пісьменьнікаў, Белдзяржунівэрсытэт і рэклямнае агенцтва Сашы Варламава. Журы конкурсу ў галіне літаратуры ачольвала Вольга Іпатава. Яна прысудзіла першыя прэміі празаікам Ігару Сідаруку і Лявону Вашко, эсэісту Юрасю Барысевічу, паэтам Юр'ю Гуменюку, Альгерду Бахарэвічу і Вальжыне Морт, а таксама Тэатру Псыхічнае Неўраўнаважанасьці — за пэрфоманс на тэму барацьбы з абортамі, у якім Гальляш Сін рабіў нелегальны спарон муміі.

# ЧАЧЭНЦЫ ПЕРАЙШЛІ Ў НАСТУП

*Працяг са старонкі 1.*

Пра выверты ваеннае прапаганды ўжо ня раз пісалі ў самой Расеі. Гэтак, рапарты пра перамогі ў Старапрамыслоўскім, Шалінскім і Нажай-Юртаўскім (на мяжы з Дагестанам) раёнах апынуліся папросту хлусьнёю. Райцэнтры там і большыя часткі саміх раёнаў ізноў цалкам кантралююць чачэнцы. Як кажуць расейскія вайскоўцы, толькі пры «спробе прарыву было забіта больш як 500 чалавек». Але ж месяц таму яны казалі, што чачэнскіх вайскоўцаў там блізу 2000!.. Расейская прэса й публіка пачынаюць раздражняцца.

Натуральна, казаць пра перамогу чачэнскіх вызвольных сілаў рана. Але, што пэўна, ніякія расейскія сьцягі ня будуць лунаць над гарамі Ічкерыі праз два месяцы, як гэта паабяцаў былы прэзыдэнт Расеі Ельцын у Ізраілі. Свайму спадкаемцу ён пакінуў цяжкую спадчыну і словамі ён яму ўжо не дапаможа. У чачэнцаў хапае моцы, каб праравяць суцэльнае кола блякады й біць расейцаў у тылах.


Фота REUTERS

Што будзе далей? Гэтае пытаньне ўсё часьцей мільгаціць у расейскіх мэдыях. «У чаканьні Будзёнаўска», — гэтак назвалі свой артыкул апошія «Известия». У Расеі выбар невялікі. Альбо дарэшты спляжыць Грозны, разам з тысячамі мірных жыхароў, якія ня здолелі ці не схацелі пераходзіць, фактычна, у расейскі палон. Альбо перагрупаваць свае войскі, мірыцца са стратамі, узнавіць блякаднае кальцо і мэтадычна абстрэльваць горад, чакаючы, пакуль чачэнцы ня вымерхаюцца. Абодва варыянты рэалістычныя, але не рэальныя. Бо хто возьме на сябе адказнасьць за такія загады?

Чачэнскі бок, са словаў агенцтва «Каўказ-цэнтар», паведаміў учора, што за апошнія два дні йшлі цяжкія баі за паселішча Дуба-юрт. У выніку баёў загінула 150 расейцаў, спалена 5 адзінак бранятэхнікі. Захопленыя тры БМП. Расейцы змушаныя былі сыйсьці на ранейшыя пазыцыі ў ваколіцы вёскі Старыя Атагі...

Падобна, што Ельцын, сам падмануты сваімі «ваенпалітамі», пасьпяшаўся здаваць Пуціну справы, міжволі «падставіўшы» яго. Іхнымі працўнікамі яшчэ не задзейнічаная пакуль «чачэнская карта», з «праваахоўнікамі», «салдацкімі маткамі», «свабодай слова» і г. д., чаго і варта цяпер чакаць. Дазнаемся багата. А да выбараў прэзыдэнта Расеі ўсяго тры месяцы...

**Гары Куманецкі**

Расея зблізку

## ХАЎРУС БЕДНЫХ

***Апошнія статыстычныя зьвесткі пацьвярджаюць, што хаўрусная дзяржава Беларусі і Расеі адно пацешыць амбіцыі палітыкаў, якім гэта выгадна; што да народу, дык і беларусаў, і расейцаў у новым саюзе чакае далейшае зьбядненьне.***

Што беларусы з году ў год бяднеюць — вядома. Ажно гаруюць і расейцы. Як паведамілі Інтэрфаксу ў Міністэрстве эканомікі РФ, толькі за мінулы год расейцы сталі бяднейшыя на 15%. Гаворка ідзе пра рэальныя даходы насельніцтва. Прычым, гэтаксама як і ў нас, намінальны заробак у Расеі ў рублях вырас на 49%, але ў пераліку на даляр — зьменшыўся на 20%. Напрыканцы мінулага году сярэдняя зарплата расейца была эквівалентная $67-68, а год перад тым $74.

У нас любяць казаць, што Расея — багатая краіна, вось чаму нам трэба яднацца. Але ж багатая яна не багацьцем людзей, а сваімі радовішчамі, ВПК і энэргарэсурсамі. Людзі там спрадвеку былі жабракі.

**С.П.**

вesткі зь Вільні

# ВЫСТАВА НАШАГА МАСТАЦТВА


*На здымку: Манстранц XVI ст. беларускае работы, падораны князем Альбертам Гоштаўтам Віленскай Катэдры, прадстаўлены на выставе*

У Вільні перад праваслаўным Раством Хрыстовым адкрылася новая выстава ў Музэі дэкаратыўнага і ўжытковага мастацтва. Яна завецца «Хрысьціянскае мастацтва Літвы». Упершыню за ўсю нашу гісторыю тут можна ўбачыць скарбы Віленскае Катэдры, якія былі адкрытыя роўна дзесяць гадоў таму (мы пра гэта пісалі). Нагадаем, што тады віленскія археолягі, баючыся савецкіх уладаў, перахавалі ўнікальны скарб. Некалькі гадоў ён зьберагаўся ў сховах розных банкаў. І нарэшце! Цяпер сотні ўнікальных рэчаў, якія датычацца гісторыі веры Хрыстовае ў нашым краі, можна пабачыць усім.

Апроч шматлікіх экспанатаў з Катэдры, ёсьць і рэчы, што паходзяць зь Беларусі з XI і да XX ст. Ёсьць багата абразоў, шатаў ды іншых культавых рэчаў усіх хрысьціянскіх канфэсіяў: каталікоў, праваслаўных, уніятаў, кальвіністаў, старавераў. Згадаем, што пасьля хросту Літвы Ягайлам у 1387 годзе першы касьцёл быў пастаўлены ў Гайне, што пад Лагойскам... Экспазыцыя заняла рэкордную плошчу — аж 3 тысячы квадратных мэтраў. Найбольш каштоўныя творы старасьвецкага мастацтва перахоўваюцца ў 12 адмысловых вітрынах, зманціраваных швэйцарскімі інжынэрамі. Не шкадуюць літоўцы грошай на культуру.

Выстава будзе трываць да 2003 году. Усе пасьпеюць...

**Віленскі**

# ПРАВІЛЫ ЎЕЗДУ Ў ЧЭХІЮ

Чэхія прыняла новыя правілы ўезду ў краіну: цяпер беларусаў на мяжы ня будуць пускаць без мэдычнай страхоўкі (можна страхавацца ў беларускіх кампаніях). Пажадана таксама мець білет на дарогу назад. Такім чынам, гутаркі пра візавы рэжым пакуль не вядзецца, але пры ўезьдзе ў Чэхію трэба мець з сабою: пашпарт, запрашэньне, страхоўку, 2 здымкі для анкет, квіток на дарогу назад (пры патрэбе). Каб магчы ў Чэхіі працаваць, трэба афармляць у Менску, у чэскім пасольстве, рабочую візу. Атрымаць дазвол на працу на месцы, у Чэхіі, цяпер нельга.

# ПРЫКАРПАЦКАЯ РУСЬ

***Ніхто дакладна ня ведае, хто яны, колькі іх і дзе яны. Яны жывуць у шасьці краінах, але ня маюць сваёй уласнай. Часам яны пішуць кірыліцай, часам — лацінкай. Некаторыя зь іх лічаць сябе славакамі, некаторыя — палякамі ці румынамі. Ці вугорцамі. Ці югаслявамі. Многія ўвогуле адказваюць на пытаньне «Вы хто?» звыклымі для сялянаў усходнеэўрапейскага паўзьмежжа словамі: «Тутэйшыя». Але шмат хто цьвёрда перакананы, што яны — русіны.***

Сьнежань 1991. Рэфэрэндум аб украінскай незалежнасьці. 78% жыхароў закарпацкай Украіны (або: «прыкарпацкай Русі») выказваюцца за тое, каб зрабіць іхны рэгіён больш самастойным. Рэакцыяй украінскіх уладаў была поўная адсутнасьць усялякай рэакцыі. Тымчасам русіны ня спалі ў шапку: у траўні 1993 году фармацэўт прафэсар Іван Тур'яніца з гуртам сяброў ды калегаў фармуе Часовы ўрад Прыкарпацкай Русі, пасьля чаго нечакана трапляе ў аўтакатастрофу, зарганізаваную, як ён лічыць, «украінскім нацыянал-фашысцкім рэжымам». Ён выжыў, ня зьнік і ягоны ўрад. Ягоных сяброў не перасьледуюць, але не пускаюць на тэлевізію і ў прэсу.

Чаго патрабуюць русіны? Яны жадаюць мець уласную дзяржаву ў межах цяперашняй Транскарпацкай вобласьці Украіны зь цеснымі сувязямі з русінамі Славакіі ды Польшчы. Чальцы Часовага ўраду згодныя перадаць кіеўскім уладам клопат пра бясьпеку новай краіны. Усё астатняе: унутраная ды замежная палітыка, адукацыя, ахова здароўя і гэтак далей — павінна быць у кампэтэнцыі русінаў. Будзе ўведзеная нацыянальная валюта, хутчэй за ўсё, таксама грыўня.

На працягу ўсёй сваёй новай гісторыі русіны жылі ў Аўстра-Вугорскай Імпэрыі сярод спрадвечных лясоў на схілах Карпатаў. Пасьля першай сусьветнай вайны, калі Імпэрыя распалася, русінаў падзялілі паміж сабой Польшча, Вугоршчына, Румынія, Югаславія ды тое, што ў хуткім часе зрабілася Савецкім Саюзам. Большасьць русінаў у міжваенны час апынулася ў Чэхаславаччыне. Менавіта там яны атрымалі найбольшую аўтаномію ў правінцыі з назвай Прыкарпацкая Русь. Гэтая аўтаномія дасягнула свайго піку, калі Брытанія ды Францыя пагадзіліся на падзел Чэхаславаччыны ў Мюнхене ў 1938 годзе. Ажно шэсьць месяцаў русінская дзяржава была незалежнай адзінкай сярод рэшткаў былой краіны. Калі нацысты ўвайшлі ў Прагу, Закарпацкую Русь праглынула Вугоршчына. Але не надоўга — напрыканцы другой сусьветнай вайны Сталін далучыў яе да Савецкага Саюзу. СССР зьнік, і Закарпацьце сталася часткай незалежнай Украіны. А русіны як секлі свой лес праз усю сваю гісторыю, так і цяпер сякуць. Сякуць, праўда, ня толькі яны. Украінскія лесанарыхтоўчыя кампаніі літаральна зьлізваюць з горных схілаў дрэвы — русінскае нацыянальнае багацьце.

Колькі ўсяго русінаў? Ва Ўкраіне іх каля мільёну, у Славаччыне сто тысяч, у Польшчы шэсьцьдзесят тысяч, ды невялікія групы ў Румыніі, Вугоршчыне, югаслаўскай правінцыі Ваяводзіна. Ёсьць яшчэ адзін нюанс, надзвычай важны для кожнай нацыі, якая марыць займець сваю краіну: вялікая дыяспара ў Штатах. Дзе й жыў самы вядомы русін, мастак і дызайнэр Энды Ўоргал — у дзяцінстве Андрэй Варгола. Карацей, русінаў падзяляе з паўтузіна дзяржаўных межаў. Русіны засталіся і па абодва бакі ўсходняй мяжы NATO. Польшча ўжо далучылася да паўночнаатлянтычнага альянсу, а Славаччына ўступіць у яго праз пару гадоў. Дарэчы, Часовы ўрад Прыкарпацкай Русі вітае набліжэньне межаў NATO.


*Вясковая капліца ў Карпатах*

Русінаў падзяляюць ня толькі мытні, але і канфэсіі. Сярод іх ёсьць і праваслаўныя, і ўніяты. Звычайны малюнак русінскай вёскі: старажытная драўляная ўніяцкая царква побач з новай праваслаўнай. Справа вось у чым: камуністы, як прыйшлі да ўлады, пачалі адбіраць ва ўніятаў цэрквы ды аддаваць іх праваслаўным. Пасьля зыходу чырвоных праваслаўныя мусілі вярнуць цэрквы іх законным уладальнікам, а сабе пабудаваць новыя.

Русінам яшчэ далёка да курдаў ці касавараў. Цяпер іх прадстаўнікі патрабуюць толькі асноўных правоў нацыянальнай меншасьці — такіх, як адукацыя на роднай мове. Русіны жадаюць атрымаць магчымасьць афіцыйна падаваць у анкеце сваю нацыянальнасьць у часе новага агульнаўкраінскага перапісу, назначанага на 2001 год. Менавіта гэты перапіс пакажа, ці сапраўды ўжо цяпер ёсьць шмат людзей, якія ідэнтыфікуюць сябе як русіны. Калі іх акажуцца дзясяткі тысяч, гэта сур'ёзна. Пакуль што ўкраінскія інтэлектуалы абвінавачваюць у падтрымцы русінскага руху сілы, што імкнуцца падарваць маладую украінскую дзяржаўнасьць. Ці ўдасца русінскім лідэрам даказаць пазытыўнасьць і самакаштоўнасьць свайго руху? Карпацкі «вядмедзь», русінскі сымбаль, яшчэ толькі прачынаецца. Нездарма русінскі гімн пачынаецца словамі: "Годзе зімовага сну..."

**Падрыхтаваў Алесь Кудрыцкі паводле The New York Revue of Books**



# СІЛА СТРАХУ

## Перамовы з рэжымам у 2000 годзе

*Які ўжо год беларуская апазыцыя чакае ад уладаў РБ крокаў да прымірэньня і заклікае да дыялёгу. Але выніку няма.*
*Чаму? Рэжым ня ведае іншае мовы, апроч мовы сілы. Нязгодныя галасы ён звык лічыць не на выбарчых участках, а ў міліцэйскіх пастарунках. Нацыянальную эліту брутальна выпхнуў зь дзяржаўнага жыцьця. Усё гэта адбываецца таксама таму, што Захад зьвяртае ўвагу на Беларусь, толькі калі бачыць кроў на менскім бруку, а Масква пачынае сумнявацца ў Лукашэнку, толькі калі тут паляць расейскія трыкалёры.*

### Дзяржаўны паразытызм

Маральных стымулаў да кампрамісу рэжым не разумее, матэрыяльных -- не прадбачыць. Рэжым баіцца, што кампраміс з апазыцыяй, нават у найменшым, змусіць яго ў будучыні да саступак у большым, а ўмацаваньне апазыцыі дасьць ёй лепшы грунт для большых патрабаваньняў. А пасьля беззаконьняў 1994—1999 гадоў рэжым засьцерагаецца найбольш «эфэкту даміно» — які можа прывесьці з калідораў улады на лаву падсудных.

У палітыцы Лукашэнкі можна знайсьці лёгіку толькі пры ўмове, што Беларусь для яго — сродак дасягненьня нейкіх іншых, прыватных мэтаў. Пры гэткай стратэгіі «дзяржаўнага паразытызму» саступкі ў справе эканамічных і палітычных свабодаў, лічаць ва ўладзе, паслабяць кантроль над краінай, прымусяць лічыцца зь беларускімі нацыянальнымі інтарэсамі. Калі Лукашэнка з камандай зьбіраецца перабрацца ў Маскву, дык усё, што імі робіцца, набывае сэнс — а саступаць камусьці сапраўды не пасавала б для такіх мэтаў.

Вось адкуль нягнуткасьць афіцыйнай пазыцыі — маўляў, калі йдзе гандаль Беларусяй, дык нашто рабіць кампрамісы дзеля Беларусі?

З гледзішча апазыцыі першаснай падставай палітычнага кампрамісу маглі б стацца менавіта гарантыі захаваньня нацыянальнай дзяржаўнасьці — адмова ад стратэгіі «паўзучай інкарпарацыі» ў Расею. Пэўнасьць у тым, што рэжым сапраўды не зьбіраецца здаваць краіну Крамлю, пакінула б для апазыцыі істотна меней матываў «разгойдваць човен». Тады, даўшы гарантыі незалежнай нацыянальнай дзяржаўнасьці, Лукашэнка мог бы і сам чуцца больш упэўнена ў справе лібэралізацыі дзяржаўнага ладу — не засталося б прычынаў для «палітычнай помсты».

Але сувязь між верагоднымі крамлёўскімі марамі і палітычнай рэчаіснасьцю ў Менску не абавязкова такая простая. Бо крамлёўскія амбіцыі не вымагаюць гэткае зацятасьці, якую дэманструе рэжым. Адкуль такая зацятасьць? Навошта антаганізаваць супраць сябе ўсю беларускую палітычную супольнасьць? Выглядае, што паза чыімісь стратэгічнымі мэтамі і марамі на шляху да пагадненьня створаная больш прынцыповая перашкода: рэжым сьвядома абраў такое поле «палітычнае гульні», кампраміс на якім проста загадзя пазбаўляецца сэнсу.

### Страх замест папулярнасьці

Перамовы з апазыцыяй мусілі прывесьці да справядлівых выбараў у органы ўлады, якія б мелі рэальныя паўнамоцтвы. Але навошта рэжыму такія выбары? Нашто яму ісьці на саступкі і дзяліцца ўладай, калі альтэрнатыва кампрамісу — страх — так танна яму каштуе?

Страх сярод бізнэсмэнаў падтрымлівае памяць пра Кудзінава і Клімава, страх сярод журналістаў — пра Шарамета, сярод пісьменьнікаў — пра Адамовіча, сярод моладзі — пра Лабковіча-Шыдлоўскага, сярод палітычных актывістаў — пра Захаранку й Ганчара, сярод рабочых — пра мэтрапалітэнаўцаў, сярод аграрнай эліты — пра Старавойтава... Любую палёгку апанэнту рэжым разглядае як страту для сябе. Любая ж саступка з супрацьлеглага боку (і сам факт перамоваў) разумеецца рэжымам як прыкмета слабасьці апанэнтаў — і, значыць, сваёй сілы.

Рэжым ня будзе гандлявацца з апазыцыяй, пакуль яму таньней будзе проста ўсё адбіраць. Рэжым ня будзе шукаць падтрымкі на выбарах, пакуль яму прасьцей будзе абапірацца на прымус.

### Апошні рубеж апазыцыі

Апазыцыя ж падышла да мяжы, за якой ня можа быць кампрамісаў, бо ўжо няма чаго саступаць. Гандлюючы з Лукашэнкам, частка апазыцыі прайшла спачатку праз такую «памяркоўнасьць», што была глупствам, потым праз «памяркоўнасьць», што была маладушнасьцю, цяпер засталася толькі такая, якая завецца «здрадай» — бласлаўленьне беззаконьня ўладаў. Далей адступаць няма куды.

Вось жа, пры любых раскладах, пры любой міжнароднай атмасфэры беларуская грамадзянская супольнасьць ніколі не адрачэцца свайго імкненьня да павагі натуральных чалавечых правоў і інтэграцыі ў Эўропу. Гэтак жа, як ніколі не акцэптуе цэнзуру думкі і зьдзек з культурнай традыцыі.

### Што далей?

Зыходзячы з сказанага, прадказаць разьвіцьцё «гульні» няцяжка.

Пагадненьне па выбарах патрэбнае для Беларусі, і мы будзем цьвёрда дамагацца справядлівага вырашэньня гэтай праблемы. Але апанэнты рэжыму сьведамыя, што рэальны кампраміс у Беларусі зьдзейсьніцца толькі тады, калі будзе пакладзены канец угрунтаваньню ўлады на рэпрэсіўнай сіле, калі гэтая сіла перастане быць палітычным сродкам. А так станецца толькі тады, калі рэжым упэўніцца, што апора на рэпрэсіі для яго рэальна даражэйшая за палітычныя саступкі — напрыклад, дасьць пра сябе знаць унутраны грамадзкі супраціў або ціск звонку. Пакуль рэжым не верыць у магчымасьць пакаштаваць «бізуна», любыя «пернікі» будуць ім глытацца безь якогась станоўчага эфэкту. Але ўлада, што прызвычаілася трывала карыстацца сілай і разумець адно мову сілы, відавочна спараджае агульную нябясьпеку — спыніць яе трэба да таго, як яна напаткае такі самы адказ.

**Мікалай Пачкаеў, сябра дэлегацыі Партыі БНФ на перамовах**

# «ЯК ПРАЦУЕМ — ТАК І ЖЫВЕМ»

*Напярэдадні візыту Лукашэнкі на Блізкі Ўсход газэта «Вести», што выходзіць у Тэль-Авіве па-расейску, надрукавала ягонае інтэрвію. Ох і любяць жа ў нас некаторыя свае прастарэкваньне выдаваць ледзь не за сьвятое адкрыцьцё...*

«У нас няма цесных кантактаў, і гэта дзіўна: у Ізраілі жыве амаль сто пяцьдзясят тысяч нашых габрэяў і сто тысяч жывуць тут, у Беларусі», — заўважыў нелегітымны кіраўнік краіны, якая толькі месяц таму падвяла вынікі апошняга перапісу насельніцтва. «Наша Ніва» цэлы нумар зрабіла пра тое, што за Лукашэнкам колькасьць жыдоў у Беларусі зьменшылася ўтрая — ад 100 да 28 тысяч, а Лукашэнка гэтых зьменаў і не заўважыў. Зрэшты, чаго чакаць у такім пытаньні ад прызнанага лідэра панславізму. Натуральна, ён не вінаваты. «Я не магу на сябе прыняць нават долю віны за тое, што склалася такая сытуацыя. Вінаваты, я думаю, усё ж другі бок.» Мусіць, другі бок цераз сілу вывозіць ад нас нашых жыдоў, якія дзьвума рукамі чапляюцца за тутэйшае бязьбеднае і бясьпечнае жыцьцё.

Беларускія жыды ў Ізраілі, на думку Лукашэнкі, «абавязаны і павінны» дапамагаць Беларусі. Чаму? Таму што, па-першае, іх радзіма — Савецкі Саюз, яны цяпер «працьверазелі і празрэлі, якую краіну згубілі»; па-другое, беларусы ратавалі жыдоў у вайну, і цяпер жыды павінны «аддзячыць, адплаціць»; па-трэцяе, яны жывуць лепей, багацей за нас, а значыць. трэба дзяліцца. Далей ідзе канкрэтны закід на адрас беларусаў. Бо, аказваецца, «кожны народ жыве так, як ён працуе». Гэта значыць, што жыды ў Ізраілі працуюць добра, таму і жывуць лепей, а беларусы-гультаі без Лукашэнкавай пугі зь месца не скранцца.

Папуліцкія сэнтэнцыі ня маюць канкрэтнага сэнсу. Нехта кажа, што «народ заслугоўвае тую ўладу, якую мае», або што «не народ для ўраду, а ўрад для народу» і г.д. Лукашэнка кажа, што «як працуеш, так і жывеш». Людзі самі вінаватыя ў сваёй беднасьці. Найважнейшыя фактары эканомікі — свабода і разумнае заканадаўства — ва ўлік не бяруцца. Народ — быдла, вось ён так і жыве.

Гэткім духам прасякнуты і маналёг Лукашэнкі пра ўласнае прэзыдэнцтва.

«І сапраўды: прайшло пяць гадоў майго прэзыдэнцтва, мне споўнілася сорак пяць. Пра тое, што я зрабіў добрага, гаварыць ня будзем. Нашмат важней іншае: што я не зрабіў дрэннага з таго, што мог зрабіць як палітык.» Дык чаго ж ён не зрабіў?

Ён не дапусьціў барацьбы за ўласнасьць, расколу ў грамадзтве і міжнацыянальнай ды рэлігійнай розьні. Уся рэч у тым, што нацыянальны скарб Беларусі за мінулыя гады раскрадаўся не чужымі людзьмі, а — пад пільным наглядам першага прэзыдэнта. І ўжо цяпер гэты скарб зьмалеў настолькі, што наступствы Лукашэнкавага праўленьня будуць параўнальныя з наступствамі вайны, недапушчэньнем якой ён так ганарыцца. Бо ў нас ня толькі людзі ператвараюцца ў жабракоў, жабрачкаю стала сама Беларусь. «Так, нас можна дакараць за тое, што людзі нашы яшчэ жывуць беднавата. Жывуць так, як працуюць.»

Напярэдадні новага году Лукашэнка быў уражаны тым, адкуль у беларускіх людзей столькі грошай! І ў гэтым «адкрыцьці» — поўная падмена паняцьцяў. Папершае, прэзыдэнт мусіць ведаць пра рэальныя даходы свайго народу і пра тое, адкуль яны бяруцца (а не дапускаць, што народ пры жабрацкім заробку прыкрадае); па-другое, прэзыдэнт ня мусіць зазіраць да людзей у кішэні, бо гэта проста непрыстойна і прыніжае народ. Па-трэцяе, прэзыдэнт мусіць радавацца таму, што рэальныя даходы растуць, а не зладзтваваць з гэтае нагоды, маўляў, ён ведае пра дадзішкі свайго злодзея-народу, але велікадушна прымружвае на гэта вочы.

«Я прызнаю, што мы не багата жывем, ня так, як жывуць у Ізраілі. Але прабачце — як працуем, так і жывем... А пра тое, што я зрабіў добрага, няхай кажуць потым...»

**Алесь Кебік**

# ВІЦЕБСКІ БУНТАР

***Мастак, фатограф, мастацтвазнаўца, калекцыянэр, краязнавец, археоляг... Безь яго цяжка ўявіць беларускі Віцебск... Безь яго цяжка ўявіць нацыянальны асяродак Падзьвіньня... У «Нашай Ніве» друкаваліся ягоныя здымкі... Пры канцы лістапада ён, Алесь Мемус, разгарнуў у віцебскім мастацкім музэі вялікую выставу «Ўрокі акварэлі».***



Фота Міхаіла Шмерлінга

## Пра род:

«Ішла вялікая кампанія перасяленьня народаў на Далёкі Ўсход, пад якую трапілі й мае бацькі. Мне ў той час было два гадкі. Мы ехалі да Ўладзівастоку больш за месяц. Сьледам за пасажырскім эшалёнам ішоў цягнік з жывёлаю й фуражом. З Уладзівастоку да Камчаткі праз два моры, акіянам плылі дзевяць сутак. Гэта была вясна 1941 году... Народ ехаў з мэтай палепшыць сваё жыцьцё. У параўнаньні з усёй краінай перасяленцы там атрымлівалі добрыя заробкі — 1,5—2 тысячы рублёў у месяц!

Дарэчы, беларусы былі першымі пасяленцамі ў адведзеным нам рэгіёне Камчаткі. Расейцы прыехалі толькі праз 10 гадоў пасьля нас. Усе тры навакольныя вёскі былі беларускія, і ўсё насельніцтва гукала тут на роднай мове. Такая маленькая Беларусь сярод вулканаў! Празь некалькі месяцаў нават мясцовыя абарыгены падхапілі нашу мову. А з мовы расейскіх перасяленцаў спачатку нават сьмяяліся, дзівіліся, што яны так гавораць. Рэальная русіфікацыя адбылася тады, калі пачалі ствараць школы, прыйшлі падручнікі на расейскай мове... Часам даходзіла да абсурду. Так настаўніца пачала мяне спраўляць: «Говори не «тата», а «папа»! Я прыбег дадому й спытаў у маці, дзе папа. На што маці вельмі зьдзівілася і перапытала:



«Якая «папа?» Я засаромеўся настолькі, што пэўны час ніяк ня зваў свайго бацьку. Мая маці была з нараджэньня сялянка, але паходзіла са зьбяднелай шляхты. На ўсё жыцьцё яна засталася беларускамоўнаю. Пра мову яна не разважала, але ўся яе пастава да сьмерці выпраменьвала непахісную высакароднасьць.

Дый тыя людзі, што засталіся жыць у Прусах, здолелі захаваць сваю годнасьць і чысьціню мовы. У гэтым я ў чарговы раз пераканаўся, калі прыехаў на пахаваньне свайго бацькі, які памёр ужо на Радзіме. За памінальным сталом гучала толькі беларуская мова. Ад простых людзей я ня чуў ніводнага мацернага слова. Гэта чысты народ.

Бацькі мае пражылі на Далёкім Усходзе да самай пэнсіі, амаль 35 гадоў. Але заставацца там надалей бацька не схацеў. Спачатку пераехалі ў Новамаскоўск каля Днепрапятроўску ва Ўкраіне і пражылі там 8 гадоў. Калі мае заразьлівыя размовы пра Беларусь зрабіліся нясьцерпным начным болем, бацька вырашыў вярнуцца на Радзіму.»

## Пра лёс:

«Адразу пасьля заканчэньня дзесяцігодкі я паступіў у мастацкую вучэльню ва Ўладзівастоку. У яе прымалі пасьля 7-гадовага навучаньня, і таму па ўзросьце я там быў ужо старэйшы. Усё навучаньне было скіраванае на мастацтва. Асаблівае задавальненьне прыносілі двухмесячныя пленэры, якія праходзілі ў славутай сярод мастакоў бухце Сідзімі (на мяжы з Карэяй). Мора, скалістыя горы, субтрапічная флёра, зьмеі, рыбацкія шхуны...



А ў Акадэмію прыехаў паступаць, калі мне ўжо было пад 30. За кампанію паехаў у Ленінград са сваім яраслаўскім сябрам Жэнем, які сабраўся падаваць дакумэнты ў Акадэмію мастацтваў на мастацтвазнаўчы факультэт. Я захапіў з сабой свае малюнкі, але больш думаў, як добра можна бавіць у паўночнай сталіцы Расеі час. Ды чамусьці я ня толькі паказаў свае працы, але й падаў дакумэнты. Хоць сам сабе лічыў усё гэта авантурай. Жэня, праваліўшыся на першым іспыце, кінуў і Ленінград, і мяне ў ім на самоце, якая нечакана перарасла ў маю ўдачу — у сьпісе прынятых у Акадэмію я з хваляваньнем убачыў сваё балтыйскае прозьвішча.

Спачатку я быў крыху расчараваны Акадэміяй. Пасьля Ўладзівастоцкай мастацкай вучэльні мяне зьдзівіла адсутнасьць тут вартага выкладчыцкага асяродку. Вучыліся самі ды адзін у аднаго, але ратаваньнем і асноўнаю школаю былі старадаўнія майстэрні графікі (афорту, літаграфіі, дрэварыту), шчодра тэхнічна абсталёўныя, не абмежаваныя для працы часам.»

## Пра Бел:

«У мяне зь дзяцінства недзе ў глыбіні душы прабіваліся парасткі сьвядомасьці беларуса. Ужо ва Ўкраіне, куды езьдзіў да бацькоў, я востра адчуў адказнасьць за сваю нацыянальную прыналежнасьць. Хвароба русіфікацыі цьвіла і там, але ўпершыню ў размовах з падпітаю мастацкаю браціяй Днепрапятроўску я зразумеў, што духоўны супраціў ня толькі жыве тут, але і разгортвае крылы. У Ленінградзе мне зрэдку трапляліся беларусы, але ўжо яны былі бяз гэтага «гаючага» супраціву ў душы, які па-здрадніцку выціскаўся подлым скепсысам да свайго. Але аднойчы занесла мяне ў Доме Кнігі на Неўскім у аддзел «Літаратура на мовах народаў СССР». Крыўдна мне неяк стала, падумаў, наўрад ці тут будуць кнігі на беларускай мове. Зайшоў і ўбачыў беларускі куточак. І што мяне асабліва ўразіла — людзі тоўпяцца каля прылаўка й нават кніжкі купляюць. Я акрыяў. Набыў сабе кніжку Максіма Танка і стаў вучыцца мовы. За 30 гадоў адзіноты на чужой моўнай ніве ад яе засталося ў душы хіба толькі хвалюючае трымценьне. Маці была маім першым перакладчыкам. Потым пазнаёміўся зь піцерскімі беларусамі, здабыў сабе слоўнік. Такое багацьце на той час! Мне здавалася, што я набыў Радзіму. А потым стаў езьдзіць у Беларусь кожнае лета. З захапленьнем чытаў Янку Купалу. Нават аднойчы хацеў Акадэмію кінуць і ехаць жыць у Нясьвіж. Ён мне асабліва спадабаўся ў час адной з маіх вандровак. А калі Акадэмію скончыў, адразу заяўку падаў у Беларусь. І стаў ужо (сам з сабою) гукаць па-беларуску...»

## Пра боль:

«У Віцебск і ў Беларусь я ўпершыню прыехаў у 1972 годзе. Выйшаў зь цягніка, і мовы ня чую. Гэта для мяне была сапраўдная траўма. Памятаю, я нема пераходзіў з трамваю ў трамвай, з аўтобуса ў аўтобус і ехаў бяз мэты, наставіўшы вушы, ловячы час ад часу да болю рэдкія рэшткі родных гукаў, у якіх была хіба яшчэ недабітая інэрцыя, але і знаку не было ўжо ні ратавальнае энэргіі, ні стваральнае волі. Была капітуляцыя, паўсюдная, ганебная, здрадніцкая, непапраўдна абразьлівая...

У час маёй вучобы ў Акадэміі там яшчэ выкладаў М.Керзін, якому было ўжо за 90 гадоў. Калі зачытвалі разьмеркаваньне і абвясьцілі, што Мемус едзе ў Віцебск, ён раптам ажывіўся, падышоў да мяне і, паціскаючы маю руку, у нейкім старэчым экстазе дадаў: «Вы шчасьлівы чалавек, што будзеце жыць у Віцебску. Мяне ж там кожны сабака ведае...» Віцебск быў першай радасьцю і першым болем, можа, таму яго і выбраў.

Віцебск уразіў мяне сваёй гістарычнай спустошанасьцю, маральным прыніжэньнем рэштаў старасьвеччыны.»

## Пра бунт:

«Кватэра ніяк ня мелася быць, інтэрнат, які мне прапанавалі як выкладчыку мастацка-геаграфічнага факультэту, падаўся ратункам. На факультэце найперш кінуўся ў вочы ненатуральны для мастацкага асяродку парадак, адсутнасьць барадаў, праяваў творчае волі ў адзеньні. Аказалася, дэкан «абразаў» парасткі такое волі на карані. Мяне папярэдзілі: давядзецца пагаліцца таксама. Але я ўпарта настойваў на сваіх правах. Гледзячы на мяне, і студэнты пачалі бунтаваць.

Мяне некалі бацька вучыў: у гэтым сьвеце трэба жыць «радавым» чалавекам. Ці за «лычкам» пагоніся, ці за «зорачкай» — лічы прапаў. Людзі становяцца нявольнікамі ўсяго гэтага. Я ж заўсёды імкнуўся быць незалежным ад пасадаў, званьняў, саюзаў, суполак... Дый у творчасьці не прытрымліваўся ніякіх стылістычных і тэхнічных межаў, увесь час мяняючы малюнак і пастэль на акварэль і наадварот.

Беларусь?.. На маім акварэльным аркушы «Белая жаробка», створаным у 1995 годзе, яна зь перабітымі ножкамі... Перад



ёю завялыя кветкі... за ёю стаптаная гісторыя... Але жаробка скача!»

Запісаў Міхась Цыбульскі

# СТО БЕЛАРУСКІХ КНІГ XX СТАГОДЗЬДЗЯ


Фота Міхала Баразны

Мы меркавалі завяршыць рэйтынг найлепшых беларускіх кніг напрыканцы мінулага году, ажно чытачы «НН» не пагадзіліся з гэтым. Акурат на Каляды пасыпаліся лісты, і агульны рэдакцыйны сьпіс дасягнуў 800 пазыцыяў. Гэта значыць, што мы будзем працягваць пачатую тры гады таму справу да матэматычнага канца тысячагодзьдзя — да 2001 году. Тым больш, калі гэта мае водгук у чытачоў.

**Алесь Цюленеў** піша: «За восем гадоў «Наша Ніва» сталася часткаю мяне, таму з радасьцю дапамагу вам падпіскай». Далей наш карэспандэнт заўважае: «Трохі дзівіць мяне, спадарове, што сьпяшаецеся скончыць XX ст. Гэтага стагодзьдзя застаецца яшчэ ладны кавалак. Ажно да наступных Калядаў. Бо рымскі мніх Дыянісі Малы за пачатак нашае эры ўважаў 1 студзеня 1 году. Дык 2000 год мінецца рыхтык 1 студзеня 2001 году. Таму вельмі спадзяюся, што крыху счакаеце падрахоўваць вынікі беларускіх кнігаў XX ст.».

Камэнтуючы свой сьпіс, сп. Алесь кажа: «У мінулым нумары газэты прэзэнтавалася кніжка Г.Сагановіча і У.Арлова «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі», што была выйшаўшы ў Вільні. Зважаючы на аўтараў і назву твору, маю вялікія спадзевы на ягоную каштоўнасьць. Дык, не чытаючы, узгадаў кніжку ў сваім сьпісе».

Дарэчы, шмат хто сьпяшаецца назваць гэтую кнігу, ня бачыўшы. Мусіць, сапраўды дзейнічае і аўтарытэт аўтараў, і магія назвы — маўляў, «10 вякоў» павінны прэтэндаваць на высокае месца ў сваім тысячагодзьдзі.

Паміж іншых пазыцыяў, сп. Цюленеў назваў і Міцкевічавага «Пана Тадэвуша». Гэты твор належыць мінуламу стагодзьдзю, таксама ў мінулым стагодзьдзі рабіліся і першыя яго беларускія пераклады. Праўда, найбольш дасканалыя былі зробленыя ўжо бліжэй да нашага часу. Таму можна залічыць гэтую кнігу да сьпісу, але варта абавязкова ўдакладніць, чый пераклад вы маеце на ўвазе.

**Нехта S.K.** даслаў свой сьпіс з Баранавічаў. Мы не аднойчы прасілі не даваць ананімных сьпісаў. Вы можаце дапісаць у лісьце, каб рэдакцыя ня згадвала вашага прозьвішча, але для справядлівага падліку нам трэба ведаць, што допісы не паўтараюцца. Бо ў гэтым наша агульная з вамі зацікаўленасьць. Тое самае тычыцца і карэспандэнта, які падпісаўся «veresk» і даслаў свой сьпіс электроннай поштай. Дарэчы, ананім з Баранавічаў упершыню згадаў «Новы Дамавікамэрон» Адама Глёбуса.

А ўвогуле гэтым разам, нібы згаварыўшыся, амаль усе называлі «Беларуска-расейскі слоўнік» М.Байкова і С.Некрашэвіча.

**Сяржук Шэлег** зь Віцебску прасіць «Нашу Ніву» ня надта ўлягаць у Расею, а болей друкаваць навінаў зь Летувы і Польшчы, а таксама — не здымаць з друку прыватных абвестак, бо гэта — «найлепшы сродак сувязі з усёй беларускай грамадой». Абвесткі здымаць мы не плянавалі. Адно што ў разьвітых краінах такія абвесткі друкуюць за невялікую плату, з чаго ўрэшце складаюцца грошы на існаваньне газэты. У нас жа грамада яшчэ не дарасла да таго, каб сама сабою ўтрымліваць сваю газэту, і не абражаецца тым, што ейная газэта мусіць ісьці на паклон да чужых людзей, а найчасьцей — гібець у нэндзы. А як падумаць, што для аднаго дробязь, тое для ўсёй грамады — капітал. Ды толькі ня надта прапануе нам грамада свае абвесткі за невялікую плату. Зрэшты, гэта іншая тэма. Спадар Сяржук дадаў да агульнага сьпісу некалькі новых кніжак, між якіх ёсьць і зусім сьвежыя. Я б вылучыў падручнік «Судовае мэдыцыны», які можа крыху апярэдзіў свой час, але абавязкова спатрэбіцца беларускім спэцыялістым у новым стагодзьдзі.

Шмат новых кніг назваў і **Н.Мысьнік** зь Менску. Тут ёсьць і новыя («Беларуская думка XX ст.»), якія мала хто пакуль бачыў, і даўнаватыя, як зборнік Анатоля Сербантовіча «Жаваранак у зэніце».

**Аляксей Плашчынскі** нават пракамэнтаваў пэўныя кнігі з свайго сьпісу. Напрыклад, пра «Імя ў летапісе» Вітаўта Чаропкі: «Гэта тая кніга, зь якой пачаўся рост маёй нацыянальнай сьвядомасьці. Я страшна зацікавіўся беларускай гісторыяй (таму і паступіў на гістфак)». Або — пра Багдановічаў «Вянок»: «Проста гэта мой любімы паэт». І сп.Аляксей пералічыў шмат ня згадваных раней назваў. Тут ужо зусім ляснуў рэдакцыйны разьлік на тое, што шырыня прапановаў скончыцца. Праўда, усе гэтыя кнігі зьявіліся ў кнігарнях толькі зусім нядаўна. Таму ў выніковы рэйтынг яны патрапяць ня хутка.

Час, які мы складаем «Сто кніг», дазволіў нам назапасіць тую колькасьць сьпісаў, якая ўжо сёньня ператварылася ў якасьць. Ужо вымалявалася тая досыць пэўная карціна, і зьмены ў ёй могуць быць толькі на ўзроўні, як той казаў, статыстычнай памылкі.

Тое самае тычыцца і рэйтынгу аўтараў, які мы робім паводле сумарнага кніжнага сьпісу. І тут гіерархія сфармавалася і наўрад ці ўжо істотна зьменіцца, прынамсі ў верхняй частцы. У сьпісе аўтараў зроблена выключэньне для Кастуся Каліноўскага, які храналягічна належыць да XIX ст., але толькі ў XX-м быў апублікаваны ў кніжным фармаце.

Яшчэ адна заўвага для сп. **Кастуся Балахоўскага** з Мар'інай Горкі, які пытаўся пра 100 найлепшых кніг сусьветнай клясыкі. Нагадаю, што ўласна з такой публікацыі і нарадзілася ідэя беларускага рэйтынгу. А было гэта ў 1996 годзе, у «Нашай Ніве» за 24 чэрвеня (№ 15 (53)), дзе мы надрукавалі Сьпіс найлепшых кніг сьвету XX ст. паводле апытаньня супрацоўнікаў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкі. Там, праўда, ня сто кніг было, а нашмат болей.

**Крыт.**

## СТО ТВОРАЎ

Багдановіч Максім. Вянок (47)
Караткевіч Уладзімер. Дзікае паляваньне караля Стаха (42)
Быкаў Васіль. Знак бяды (38)
Колас Якуб. Новая Зямля (35)
Караткевіч Уладзімер. Каласы пад сярпом тваім (34)
Сагановіч Генадзь. Невядомая вайна (34)
Караткевіч Уладзімер. Чорны замак Альшанскі (32)
Геніюш Ларыса. Споведзь (31)
Тарашкевіч Браніслаў. Беларуская граматыка для школаў (31)
Купала Янка. Спадчына (30)
Ермаловіч Мікола. Старажытная Беларусь (28)
Быкаў Васіль. Сотнікаў (27)
Ігнатоўскі Усевалад. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (27)
Смоліч Аркадзь. Геаграфія Беларусі (27)
Ластоўскі Вацлаў. Кароткая гісторыя Беларусі (26)
Маўр Янка. Палескія рабінзоны (26)
Аляхновіч Францішак. У кіпцюрох ГПУ (25)
Арлоў Уладзімер. Таямніцы полацкай гісторыі (25)
Арсеньнева Натальля. Пад сінім небам (25)
Тарасаў Кастусь. Памяць пра легенды (25)
Купала Янка. Жалейка (24)
Мележ Іван. Людзі на балоце (24)
Гарэцкі Максім. Рунь (23)
Караткевіч Уладзімер. Хрыстос прызямліўся ў Гародні (23)
Колас Якуб. На ростанях (23)
Туронак Юры. Беларусь пад нямецкай акупацыяй (23)
Чаропка Вітаўт. Імя ў летапісе (23)
Ермаловіч Мікола. Па сьлядах аднаго міту (22)
Караткевіч Уладзімер. Зямля пад белымі крыламі (22)
Быкаў Васіль. Сьцяна (21)
Энцыклапэдыя гісторыі Беларусі (21)
Колас Якуб. Сымон-музыка (20)
Ластоўскі В. Падручны расейска-крыўскі (бел.) слоўнік (20)
Быкаў Васіль. Альпійская баляда (19)
Архітэктура Беларусі. Энцыклапэдыя (18)
Віцьбіч Юрка. Плыве з-пад сьвятое гары Нёман (18)
Гарэцкі Максім. Дзьве душы (18)
Гарун Алесь. Матчын дар (17)
Геніюш Ларыса. Ад родных ніў (17)
Цётка. Хрэст на свабоду (16)
Акула Кастусь. Змагарныя дарогі (15)
Гарэцкі Максім. Гісторыя беларускай літаратуры (15)
Гілевіч Ніл. Родныя дзеці (15)
Дайнека Леанід. Сьлед ваўкалака (15)
Кіпель Вітаўт. Беларусы ў ЗША (15)
Адамовіч А., Брыль Я., Калесьнік Ул. Я з вогненнай вёскі (14)
Алексіевіч Сьвятлана. У вайны не жаночае аблічча (14)
Беларусь. Энцыклапэдычны даведнік (14)
Доўнар-Запольскі Мітрафан. Гісторыя Беларусі (14)
Калубовіч Аўген. Крокі гісторыі (14)
Ластоўскі Вацлаў. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі (14)
Мысьліцелі й асьветнікі Беларусі (14)
Разанаў Алесь. Вастрыё стралы (14)
Тарасаў Кастусь. Пагоня на Грунвальд (14)
Ткачоў Міхась. Замкі Беларусі (14)
Цьвікевіч Аляксандар. «Западно-руссизм» (14)
Абдзіраловіч Ігнат. Адвечным шляхам (13)
Купала Янка. Тутэйшыя (13)
Мрый Андрэй. Запіскі Самсона Самасуя (13)
Сямашка Яўген. Армія Краёва на Беларусі (13)
Найдзюк Язэп і Касяк Рыгор. Беларусь учора і сяньня (12)
Быкаў Васіль. Аблава (11)
Барадулін Рыгор. Эвангельле ад мамы (10)
Дайнека Леанід. Меч князя Вячкі (10)
Караткевіч Уладзімер. Быў. Ёсьць. Буду (10)
Карскі Яўхім. Беларусы (10)
Станкевіч Адам. Родная мова ў сьвятынях (10)

## СТО АЎТАРАЎ

1. Караткевіч Уладзімер 190
2. Быкаў Васіль 155
3. Купала Янка 107
4. Колас Якуб 90
5. Гарэцкі Максім 76
6. Ластоўскі Вацлаў 68
7. Арлоў Уладзімер 58
8. Геніюш Ларыса 53
9. Багдановіч Максім 50
10. Ермаловіч Мікола 50
11. Тарасаў Кастусь 44
12. Сагановіч Генадзь 39
13. Гілевіч Ніл 38
14. Мележ Іван 38
15. Маўр Янка 35
16. Чаропка Вітаўт 35
17. Арсеньнева Натальля 34
18. Брыль Янка 32
19. Дайнека Леанід 32
20. Тарашкевіч Браніслаў 31
21. Адамовіч Алесь 29
22. Аляхновіч Францішак 27
23. Ігнатоўскі Ўсевалад 27
24. Разанаў Алесь 27
25. Смоліч Аркадзь 27
26. Алексіевіч Сьвятлана 26
27. Цётка 26
28. Барадулін Рыгор 23
29. Віцьбіч Юрка 23
30. Туронак Юры 23
31. Гарун Алесь 20
32. Акула Кастусь 18
33. Чорны Кузьма 18
34. Глёбус Адам 17
35. Калесьнік Уладзімер 17
36. Калубовіч Аўген 17
37. Ткачоў Міхась 17
38. Цітоў Анатоль 17
39. Доўнар-Запольскі Мітрафан 16
40. Кіпель Вітаўт 16
41. Крапіва Кандрат 15
42. Мальдзіс Адам 15
43. Шамякін Іван 15
44. Адамовіч Славамір 14
45. Далідовіч Генрых 14
46. Касяк Рыгор 14
47. Мрый Андрэй 14
48. Станкевіч Ян 14
49. Танк Максім 14
50. Цьвікевіч Аляксандар 14
51. Абдзіраловіч Ігнат 13
52. Дубоўка Ўладзімер 13
53. Жылка Ўладзімер 13
54. Лынькоў Міхась 13
55. Станкевіч Адам 13
56. Сямашка Яўген 13
57. Пазьняк Зянон 13
58. Вядзьмак Лысагорскі 12
59. Найдзюк Язэп 12
60. Улашчык Мікола 12
61. Адамчык Вячаслаў 11
62. Лёсік Язэп 11
63. Стральцоў Міхась 11
64. Сяднёў Масей 11
65. Бядуля Зьмітрок 10
66. Грахоўскі Сяргей 10
67. Карскі Яўхім 10
68. Іпатава Вольга 9
69. Лойка Алег 9
70. Каліноўскі Кастусь 8
71. Лукашук Аляксандар 8
72. Луцкевіч Антон 8
73. Яновіч Сакрат 8
74. Бутрамееў Уладзімер 7
75. Карпюк Аляксей 7
76. Некрашэвіч Сьцяпан 7
77. Байкоў Мікола 7
78. Панчанка Пімен 7
79. Раманюк Міхась 7
80. Салавей Алесь 7
81. Сачанка Барыс 7
82. Шчакаціхін Мікола 7
83. Юхо Язэп 7
84. Ядвігін Ш. 7
85. Буйло Канстанцыя 6
86. Гайдук Мікола 6
87. Зарэцкі Міхась 6
88. Кісялёў Генадзь 6
89. Пташнікаў Іван 6
90. Сыс Анатоль 6
91. Александровіч Сьцяпан 5
92. Запруднік Ян 5
93. Каганец Карусь 5
94. Лыч Леанід 5
95. Рубанаў Уладзіслаў 5
96. Сёмуха Васіль 5
97. Сокалаў-Воюш Сяржук 5
98. Янкоўскі Фёдар 5

# CD, чытай!

Часопіс «Студэнцкая Думка», 1999 год.



Гадоў дзесяць таму маленькаму хлопчыку Толю, які прагнуў дарвацца да парасткаў беларускага адраджэньня, прынесьлі друкаваную на жаўтлявай паперы танюткую «часапісь» «Студэнцкая Думка», якую выдаваў нехта сп.Гуркоў. Разам са «свабодаўскім» «Гаварыў Язэп Барэйка», якое гучала з мэмбранаў старога дзедаўскага самапальнага прыймача, выданьне, бадай, і сталася тым, што вызначыла грамадзянскую пазыцыю ды сьветапогляд яшчэ далёка не студэнта Прасаловіча.

Прайшоў час, «інжынэры лесу» з БДзТУ недзе згубілі эстафэтную палачку стварэньня «Студэнцкае Думкі», але неўзабаве яна зьявілася зноў, акрылела, перайшла на легальную аснову (зь невядомай ступеньню пераймальнасьці), выбілася на нармальную паперу, а ад сёлета ўжо мы маем «CD» каляровую. Выданьне ня зьнікла зь беларускае інфармацыйнае прасторы, нягледзячы на быццам пeражытую летась глыбокую творчую крызу ў калектыве.

Да зьместу. Мала што засталося ад лесгасфакаўскае выдаванкі ў кампазыцыі, дызайне, складзе аўтараў, але сутнасьць тая самая: «Студэнцкая Думка» — гэтым разам проста «штомесячнае выданьне» — скіраваная выключна на студэнтаў, прычым збольшага зарыентаваных у беларускім «раскладзе».

Тэматыку часопіса нельга назваць вузкай, хоць усе артыкулы так ці нeяк зьвязаныя з жыцьцём ды зацікаўленьнямі грызуноў каменя акадэмічнае навукі. Шмат месца прысьвячаецца заўсёдным сацыяльным праблемам студэнтаў, аднак бракуе пры гэтым шляхоў змаганьня за свае правы. Аўтары «CD» з задавальненьнем распавядуць вам пра тое, як яны вучыліся ў Латвіі ці гасьцявалі ў сваіх праскіх, варшаўскіх, віленскіх ды ці мала якіх яшчэ сяброў Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў, раскіданых па ўсім белым сьвеце. Магчыма, гэтак ЗБС намагаецца пашырыць кола сваіх сымпатызантаў, завабіць іх прыгожымі цацкамі ў замежнай абгортцы. Але ці варта пакідаць часопіс на ўзроўні органу адной арганізацыі, калі ёсьць цалкам відавочная пэрспэктыва заняцьця зусім вольнае нішы прафэсійнага выданьня для моладзі?

У астатнім часопіс цікавы ды непаўторны: ну, дзе яшчэ па-беларуску студэнт дастане інфармацыі пра тое, як правільна нацягваць кандом, прычым фінальнай фразай ідзе «Вашае здароўе ў вашых руках. Беражыце адзін аднаго. Беражыце сваё каханьне!» Цнатлівыя беларускія студэнтачкі, мусіць, млеюць ад такое непрыхаванае мужчынскае самазакаханасьці не зусім мачысцкага ЗБСу. З апошніх артыкулаў можна адзначыць зацемку сп. Мухіна пра анархістаў ды ягонае ж інтэрвію з контракультурным Лёлікам Ушкіным, Гардзіенкаў «Kalandar» і сэрыю «Millenium», у якой, праўда, кожны з аўтараў апэруе аднымі й тымі ж фактамі. Не застануцца па-за ўвагай чытачоў артыкулы, прысьвечаныя музыцы, спорту, вандроўкам.

Аднак, не зважаючы на досыць шырокі тэматычны спэктар матар'ялаў, яны ўсе абмежаваныя канцэптуальна: аддаецца перавага апісаньню сваіх уражаньняў ды тлумачэньням тое ці іншае зьявы, «Студэнцкая думка» губляе ці, хутчэй, не знаходзіць новае чытацкае аўдыторыі. Хочацца верыць, што пэўная ступень графаманства, у якім можна абгрунтавана абвінаваціць і аўтара гэтае рэцэнзіі, будзе характэрная для «CD» толькі на этапе станаўленьня.

**Анатоль Прасаловіч**

# КОШКА І МЫШКА

*прыпавесьць*

Васіль БЫКАЎ

Мышка ў той дзень увогуле была сытая, але яна была маладая, цікаўная і доўга не магла сядзець на адным месцы. Тым болей у яе цёмнай норцы, дзе нічога не было відаць, нічога не чуваць. А поруч, на падворку — яна ўжо ведала — была процьма цікавага, асабліва пад лапухамі, дзе бегалі порсткія кузуркі, сядзелі, варушачы вусамі, чорныя жукі, а на травяных галінках круцілі рожкамі дзівосныя сьлімакі ў цьвярдых, скурчаных ракавінах. Увогуле мышка была далікатная, добразычлівая да малых насельнікаў падворку. Яе таксама ніхто асабліва ня крыўдзіў, і яна думала, што дужа баяцца там не было чаго. Яна імкнулася быць аптымісткай.

Праўда, яна ўжо чула, што недзе там час ад часу паяўляецца страшны мышыны вораг — кот. Але мышцы яшчэ не даводзілася спатыкаць яго, і яна думала, што і не давядзецца. Навошта кату цікаваць малую палахлівую мышку — мабыць, яму лепей мець справу зь вялікімі пацукамі. З мышкі які наедак?

Той раз яна магла б і не вылазіць з норкі, але ўзяла ды вылезла.

На падворку пад лапухамі было цёпла, аж горача, і ціха — мабыць, жывёлу яшчэ не прыгналі з поля. Побач шорхалася ў пяску квактуха — старая, рабая курыца, якая квохнула разы два, заўважыўшы мышку. Мышка шмыгнула ля яе далей да прызбы і раптам толькі роспачна піскнула. Аднекуль зьверху на яе пляцнуліся дзьве кіпцюрыстыя лапы — бегчы ўжо не было як. Канечне, то была кошка — маладая, юрлівая, зь белымі прыгожымі лапкамі. Мышка сьпярша спалохалася, але тыя лапкі абыходзіліся зь ёй далікатна, і тое супакойвала. І мышка падумала, што ўвогуле ёй пашэнціла — было б куды горш апынуцца ў страшных кіпцюроx ката. А там, можа, і нічога яшчэ ня здарыцца, — мышка хацела быць аптымісткай.

І праўда, не ўчыніўшы ёй вялікага болю, кошка падхапіла мышку зубамі і вынесла на чысты, падмецены падворак. Мышка напружана думала, і ўсё так выходзіла, што кошка палуднаваць ёй не зьбіраецца. Інакш бы яна пад'ела ў зацішку, ля лапухоў. На падворку нікога не было, кошка паклала мышку ў доле. Мабыць, можна было б паспрабаваць уцячы, але мышка не хацела выказваць непаслушэнства і тым злаваць кошку. Яна ўсё спадзявалася на лепшае. Тады кошка далікатна штурхнула яе лапкай пад бок, нібы патураючы бегчы. І праўда — мышка пабегла.

Зусім ужо блізка было да норкі, як кошка ўсё ж дагнала яе і ўпілася кіпцюрамі ў хрыбціну. Мышцы стала дужа балюча, і яна аж перастала дыхаць. Але неўзабаве і супакоілася, бо кошка ўсё не сьпяшалася яе хрумстаць. Пэўна, то была добрая кошачка, яна толькі хацела пагуляць з мышкай. Тады мышка зьнерухомела і, бы нежывая, перавярнулася лапкамі ўгору. Тое, 

Малюнак Сяргея Харэўскага

відаць па ўсім, спадабалася кошцы, якая абедзьвюма лапкамі пачала кідаць з боку на бок маленькую сымулянтку, бы заправаючы яе да гульні. Гуляць мышка ўвогуле любіла, і, хоць цяпер і баялася трохі, але ўсё не магла паверыць у кепскае. Ужо надта лагодна, бяз злосьці ставілася да яе ладная кошачка, няўжо гэткая можа зьесьці рахманую мышку?

Мусіць, мышка магла б яшчэ ўцячы, асабліва калі ў гэтай гульні апыналася бліз лапухоў, ды ў яе ўсё не ставала рашучасьці. Зноў жа, яна была аптымісткай, дагэтуль жа нічога кепскага зь ёй ня здаралася. Але во кошка ці, можа, таму што нагулялася, ці зь якой іншай прычыны, дужа цяўкнула мышку ля шыі — ад болю ў той аж памутнела ўваччу. Кошка тым часам паклала мышку ля ног, азірнулася па бакох, — падобна, яна адпачывала. Ці можа, разважала, каб пусьціць мышку? Павінна была б пусьціць, бо мышцы было блага, наўрад ці яна цяпер магла б уцячы. Але яна спадзявалася.

Яна верыла ў дабрыню, тым болей ад такой ладнай маладой кошкі, якой яна не зрабіла нічога кепскага. Нават не раззлавалася на яе. Мышка разумела, што ўвогуле кошкі — ворагі мышак, але ж, мусіць, і кошкі бываюць розныя: злыя і добрыя. Таксама, як і мышы. Яна во, напрыклад, зусім добрая мышка, нікому ніякага зла не ўчыніла. Не пакрыўдзіла ніводнае кошкі. Навошта ж кошцы забіваць яе? Каб палуднаваць? Але ж тое можна зрабіць зь якой іншай мышкай, не абавязкова зь ёю.

Кошка ўсё азіралася па бакох, нібы чакаючы чаго, а мышка нерухома ляжала ў доле і разважала. Разважала пра справядлівасьць. Усё ж несправядліва ўладкаваны сьвет, калі адныя істоты дужыя і нахабныя, а іншыя слабыя і палахлівыя. Слабым і палахлівым жывецца кепска, і мусіць, таму яны дбаюць пра справядлівасьць, дабрыню і спагаду. Ды дужыя не зважаюць на тое. А і праўда, нашто дужым спагада? Дужым патрэбна яшчэ болей сілы, бо сілу сіла дае. А што во рабіць бедны мышцы, у якой ці не зусім перакушана карак?

Але ж кошка зусім ня страшная, нават прыгожая — і пыска, і вусікі, хаця навошта яна абліззвалася? Што тое значыць?

І раптам кошка страпянулася, зыркнула касымі вочкамі ў бок недалёкага ганку. Мышка сьцялася ўсім сваім маленькім цельцам — на ганку, пагрозьліва выгнуўшы хвост, стаяў страшны мардаты кот; мабыць, ён ужо згледзеў наводдаль кошку зь небаракай-мышкай. Кошка, пэўна ж, спалохаўшыся, дужа хапнула зубамі мышку і кінулася пад лапухі.

Там яна разам прыкончыла бедную мышку, апошняй думкай якой было: добра, што яны ўратаваліся ад ката.

Мышка да канца заставалася аптымісткай. ■




Фота Алены Адамчык

## СУАЙЧЫНЬНІКІ-8

Адам ГЛЁБУС

### ПАЗЬНЯК

Культурнік-палітык Зянон Пазьняк перастаў быць лідэрам беларускай апазыцыі. Яго зьмянілі палітыкі "новай хвалі". Але справа Пазьняка жыве й буяе. Справа чалавека, які браўся зрабіць і не зрабіў, будзе, як ні крыўдна, жыць вечна. Зірні навокал: Пазьнякоў процьма, на кожнай галіне сядзіць свой маленькі Пазьнячок. Гермянчук-Пазьняк — у журналістыцы, Вячорка-Пазьняк — у філялёгіі, Някляеў-Пазьняк — у літаратуры, Шарэцкі-Пазьняк — у парлямэнтарызме. Зянон Пазьняк, як іртуць, рассыпаўся на процьму шарыкаў-Пазьнякоў. І як цяпер сабраць гэтых Пазьнякоў? І хто іх зьбярэ?

### КРЫВАБЛОЦКІ

Калі бацька прывёз школьніка Валодзю Крываблоцкага зь вёскі Хвалава, што на Берасьцейшчыне, у сталічны Менск, ён і думаць ня думаў пра казытлівую сытуацыю, у якой апынецца. Напачатку ў школцы-інтэрнаце для адораных дзяцей па музыцы й выяўленчым мастацтве, дзе здаваў іспыты Вовачка, усё ішло гладка, пакуль не задалі кампазыцыю — малюй, што пажадаеш. што на душу ляжа, што ўразіла больш за ўсё на сьвеце. І Вовачка намаляваў. Экзамэнатары іржалі, як коні, калі пабачылі Вовачкаву кампазыцыю з жыцьця жывёлаў. На малюнку зубар пакрыў зубрыху. Бацька, пачуўшы іржаньне, ня вытрымаў і зайшоў у клясу, пачырванеў, як бурак, і спытаў: "Дык што, ня возьмеце?" "Возьмем!" — адказалі экзамэнатары. За школаю бацька спытаў у Вовачкі: "Дзе ж ты такое бачыў, сынок?" "А памятаеце, тата, як быка да каровы даводзілі? Вось я падумаў, і ў зуброў тое самае адбываецца".

### СЕМЧАНКА

Шрыфтавік Павал Семчанка ніколі ня носіць партфэля ў правай руцэ. Ён шкадуе руку майстра. Аберагае ад непатрэбных цяжараў. Семчанка так любіць рукапісныя шрыфты, што й выгляд займеў старажытны: барада, як у праваслаўнага сьвятара ў XIII стагодзьдзі. І таму нікога не зьдзівіла размова пра лячэньне зубоў у далёкай мінуўшчыне. Семчанка меркаваў, што старажытны чалавек рабіў зубныя плёмбы з дубу. Ад тэорыі ён перайшоў да практыкі й забіў малатком сабе ў зуб кавалачак дрэва. Праз колькі дзён барадаты твар разьнесла й скасабочыла. Доктар уратаваў аматара рукатворчасьці ад болю, але зуб давялося выдзерці.

### РЫБАК

Зь пісьменьнікам Алесем Рыбаком лёс зводзіў мяне двойчы. Рыбак рэдагаваў маю першую празаічную кнігу "Адзінота на стадыёне", рэдагаваў акуратна, і канфлікту не было. Яму не спадабалася слоўца "рамбаза", я яго замяніў. Папрацавалі й разышліся. А вось першая мая сустрэча з Рыбаком уразіла. Я з бацькам чакаў Алеся на Краснай плошчы, каля помніку Мініну й Пажарскаму. Рыбак выйшаў з Крамля, падышоў да мяне й аддаў пачак сшыткаў з "лашчонымі" аркушамі. "Пішы, Валодзя, пішы!" Пішу...

### БЯЛЯЦКІ

Люблю лічыць. Раз, два, тры... З гэтага музыка пачынаецца й паэзія гэтаксама, а з паэзіі ўся літаратура выцякае. Мой погляд такі. Ёсьць іншыя. Але іх не люблю. Не, ня погляды, а тых, хто ня ўмее лічыць, — не паважаю. Да прыкладу, нейкі кепскі арытмэтык — спадар Кавальчук —напісаў аповесьць "Вясельле на хутары" і надрукаваў у часопісе «Arche». О гэтыя літхутары! І на гэты хутар "зь лесу даляталі... рэдкія камары". Памятаеш пра рэдкую птушку й сярэдзіну Дняпра? А тут такі рэдкі камар, які далятаў на сярэдзіну хутара. А можа Кавальчук пралічыўся? І камароў было шмат? Дапускаю. Цалкам. Вось эпізод, які даказвае няўменьне Кавальчука лічыць.

"Вось да вогнішча падышлі Пётра з Валяю...

(Заўважу, аўтар, ён жа лірычны герой, ужо сядзеў каля кастра. — А.Г.).

-- Сапраўды казак, — з гонарам за Пётру прагаварыў я да Валі.

Яна, сарамліва (а як жа інакш? — А.Г.) пасьміхаючыся, прамаўчала..."

Апускаю трызьненьні аўтара, але заўважу, што ніхто нікуды ад вогнішча не сыходзіў, і ў наяўнасьці ёсьць тры асобы: Валя, Пётра, які пазьней зарыгае ўвесь хутар, і Кавальчук.

"У хуткім часе да агня прыйшоў яшчэ адзін хахол Генік. І мы сядзелі ЎТРОХ моўчкі каля вогнішча. Пётра змоўк, і кожны з нас думаў пра нешта сваё, а можа ні пра што ня думаў..."

А пра што думаў аўтар, калі гэта пісаў у 1992 годзе й выдрукаваў у 1999? Пра што ён думаў 7 гадоў? Пра жаночыя ногі! Я ўпэўнены. Вось цытата: "... плынь сьвядомасьці несла мяне, як па шпалах, па жаночых нагах..." Моцна!

Люблю я лічыць, люблю і ўмею. А яшчэ я люблю вылічваць. І вылічыў, што Алесь Кавальчук — гэта праваабаронца Алесь Бяляцкі. ■

гэта наша вёска

## Вёска піла

«Неяк прыйшоў да мяне загад: ехаць з участковым правяраць ананімку ў суседнюю вёску», — распавядае мне адзін добра знаёмы стары. — «А таго мужчыну, да якога ехалі, я добра знаў. Дый участковы трохі быў знаёмы зь ім. Прыходзім, значыць, да яго ў хату, кажам, маўляў, шукаем самагонку... Той: нічога, шукайце, маўляў. Абшукалі мы ўсё, няма нічога. Мужык сьмяецца ў кулак. Сабраліся ісьці. Участковы выйшаў, а мужык на мяне: «Пятро, вазьмі вады папі». Смачная, маўляў, у мяне, толькі з калодзежу, ты ж, мабыць, стаміўся — узяў я конаўку, чэрпнуў ды й каўтнуў разы з два... Ух-х.. Аж за дух узяло... Моцная аказалася ў вядры самагонка. Сярод хаты! Нічым не прыкрытая! А я й кажу — добра ўмелі гнаць самагон тады.»

## Вёска п'е

Ведаеш дзядзьку Фаўста? Ну дык з Норбэртам панабіраліся, бы вепрукі, брагі, а Фаўст кажа : «Я за бутэльку белай жывой жабе галаву адкусіць магу». Норбэрт хоць і даты добра быў, але не паверыў.

— Ат, мухрук дэбільны, нясеш ужо, што сьліна да губы прывярзе!

— Давай паглядзім, як адкушу галаву — зь цябе бутэлька.

І адкусіў.

— Ну дык вот, зоўсім дурныя!

## Вёска будзе піць

— Тата, а што ў кубку, што бабуля прынесла? Сок?

— Сок, сок, — кажа бацька, дапамагаючы бабцы крышыць капусту.

— Ну дык я пап'ю?

Хлапчук гадоў трох бярэ конаўку грам на 300 і выпівае.

Сеўшы пад'есьці, бацька, які прыехаў адведаць маці, і гэтак павернецца, і так. Урэшце ня вытрымаў:

— Маці! Ну, навошта такое рабіць? Сама дазволіла выпіць тайго віна, а цяпер узяла ды схавала.

— Не хавала я нічога!

Дзьве пары вачэй утаропіліся на хлапчука, які ўжо быў, пераклаўшы на вясковую шкалу хмелю — як «сава ў дупле».

**Сяргей Майсеня, в.Друцкаўшчызна пад Нясьвіжам**



Фота Анатоля Клешчука




# БРАТУ

*Днямі адзін з чытачоў «Нашае Нівы» атрымае ліст такога самага зьместу. Гэта адказ на нядаўні ягоны допіс — звычайны ліст з самымі звыклымі пытаньнямі сёньняшняга часу — тымі, якія мы ўжо даўно безнадзейна й мэтадычна задаем адзін аднаму, лідэрам, народу, дый проста залпам шарахаем у белы сьвет. Пытаньнямі, хто вінаваты, што рабіць, хто каго і хто там ідзе — што ўвесь час скразяць у нашае сумятні і няёмка зівісаюць пры сустрэчах. Апошнім часам мы ўжо нават не пытаемся, а проста нема, у одуме, разглядаемся навокал — бо сказана ўсё, што можна было, паўторана ўсё, што сказана, і паўторана неадночы, а сэнсу няма.*

*Праўда, адказаць нам усё ж давядзецца. Раз і назаўжды — перад Госпадам Богам вінаватыя мы, а ня хто іншы. Наша вечная бяда — мы ўвесь час хочам зьмяніць сьвет, не мяняючы сябе. Марна. Бо сьвет ужо 2 тысячы гадоў мае выбар: прыняць гэтую праўду, адкрыць для сябе рэальны стан справаў і з Богам выступіць супраць сусьветнага зла — альбо зрабіць выгляд, што нас гэта ня тычыцца, і па-ранейшаму блукаць у вечных чалавечых пытаньнях.*

*І першаму, каму сёньня патрэбнае гэтае адкрыцьцё, — маладому чалавеку, які шукае сэнсу жыцьця, носіць на сэрцы бел-чырвона-белы сьцяг і якому дадзена пранізьлівае адчуваньне адказнасьці за ўсю Беларусь.*

*Табе, браце.*

Вітаю.

Чытаў, ты вельмі перажываеш за краіну, за нацыянальную дэмакратыю й за тое, што сьвядомыя сябры чамусьці расчароўваюцца й адмаўляюцца займацца палітыкай.

Непрыемна табе казаць, але *палітыка* ў Беларусі даўно скончылася. Палітыкі няма — замест яе засталася масавая *псыхалёгія*, папулярныя пачуцьці й паводзіны: цынізм і нянавісьць, подласьць і страх, пыха і гнеў, жорсткасьць і абыякавасьць. Прасьцей кажучы, звычайнае *зло*, якое шалее ў спустошаных, расчараваных і падманутых душах. На жаль, ня толькі сярод правінцыйных савецкіх пэнсіянэраў і цёмных вяскоўцаў, ня толькі ў калідорах улады, КГБ і РАУСах, але й нават там, дзе мы хацелі б бачыць прыстойнасьць, чысьціню і безумоўнае дабро — у асяродзьдзі апазыцыі, у тусоўках актыўнае моладзі, у газэтах, якім мы верылі безаглядна.

Таму, напрыклад, раптоўны прыход да ўлады дэмакратаў, выбары, мітынгі і ўся астатняя, у нашым разуменьні, *палітыка*, сама сабою ўжо мала што вырашае. Галоўнае пытаньне Беларусі сёньня куды глыбейшае за праблему таталітарнага рэжыму й пагрозу рэваншу Расеі — гэта адсутнасьць духу, вакуум бязьвер'я, які выбухае то сварамі ў апазыцыі, то каменным градам і азьвярэлым зьбіцьцём дэманстрантаў, то страшным агульнанародным трансам. Пуста і страшна — вось пачуцьці, якія апаноўваюць і ўсё грамадзтва, і кожнага чалавека бяз Бога — а куміры, паветраныя замкі й чалавечыя прынцыпы на вачох ператвараюцца ў дым.

Тым часам можа быць і яшчэ страшней. У 1999-м за ўсімі кангрэсамі дэмакратычных сілаў, апазыцыйнымі прэзыдэнцкімі выбарамі, заканчэньнем тэрміну Лукашэнкі, Маршамі Свабоды й саюзнымі дамовамі мы й не заўважылі, як галоўнай падзеяй году сталася катастрофа Нямігі. Раптоўны й жудасны правал дзяржавы й грамадзтва, як калісьці перад распадам СССР Чарнобыльскі выбух, скалануў кожнага з нас заклікам да ўсенароднага ПАКАЯНЬНЯ.

Памяць ня служыць розуму, і да наступнае трагедыі мы проста зноў засынаем. А вось адчуць сваю ўласную віну ў тым, што здарылася з усімі, пакаяцца ў жыцьці, якое вядзе да Нямігі, спавядацца перад Госпадам — гэта сапраўднае ачышчэньне, пасьля якога грамадзтва нарэшце адчуе само сябе, убачыць, куды ідзем, і жахнецца будучыні. Вера не прыходзіць без пакаяньня. Без такога нацыянальнага пакаяньня, як у Нямеччыне 45-га ці ў ЗША пасьля Віетнамскай вайны, беларускі нацыянальны ўздым немагчымы.

Толькі падумаць, 2 тысячы гадоў ад Нараджэньня Хрыстова! Унікальны час — ужо 2000-ы, але яшчэ цэлых 12 месяцаў да III тысячагодзьдзя. Увесь год, вось пабачыш, нам давядзецца ўвесь час чуць пра эру любові й міласэрнасьці. І мы будзем звыкла пераключацца на іншы канал, мэханічна абстрагавацца, дасадліва пралістваць газэтныя развароты «пра хрысьціянства» ў пошуках ісьціны... І ўнікаць, падсьвядома, панічна ўнікаць факту, які растаўляе ўсё на свае месцы.

2000 гадоў таму на Зямлю прыйшоў ХРЫСТОС.

Скажаш, тысячу разоў чутае. Хто толькі табе гэтага ні казаў... Ды ўвогуле, тут краіну ратаваць трэба — акупацыя, выбары, Лукашэнка, усе такія справы... Паслухай, кажу табе: калі хто хоча стаць збаўцам Беларусі — спачатку паглядзі, як Хрыстос збавіў усё чалавецтва. ВЕРА, што дзейнічае ЛЮБОЎЮ, — вось адзінае збавеньне, як яно ёсьць, для ўсіх часоў і народаў, поўнае вызваленьне Беларусі й тваё асабіста.

Ты кажаш, мова, палітыка, нацыянальная дэмакратыя... Усё так — але гэта толькі вытворнае; гэта наступствы духовага здароўя нацыі, а ніяк не яго перадумовы. Людзі спрабуюць спасьцігнуць «агульначалавечыя каштоўнасьці» праз розум, лёгіку, пачуцьці — гадамі, і ўсё роўна ня робіцца сьвядомымі грамадзянамі. А вера — справа сэкундных азарэньняў, пад час якіх адкрыцці справядлівасьці й гармоніі, сваёй роднай мовы і ўласнай краіны — адныя з самых моцных. Людзі мяняюцца не ад пазнаньня: вызваленьне й нацыянальная рэвалюцыя адбываюцца ў сэрцы, поўным любові й веры ў Бога.



Ты сам ведаеш: той, хто сапраўды верыць, ніколі не прап'е хаты, ня будзе лупцаваць дзяцей ці сварыцца з суседам. Цывілізацыя Захаду набудаваная на хрысьціянскіх прынцыпах — і адсюль адкрытае грамадзтва, плюралізм і дэмакратыя, культура ўзаемапавагі. Нас уражвае, як у Эўропе чыста й хараша, бо ўсё, што робіць, яны стараюцца зрабіць узорна, бо кожная справа, ім зь дзяцінства вядома, чалавеку самім Госпадам дадзеная. Расея, Украіна, Беларусь — як былі духова змрочнымі зонамі, так і засталіся. І мараль, і палітыка, і эканоміка ў краіне бяз Бога ня маюць асноватворнае сыстэмы каардынатаў, і таму носіць сатана, кідае на хвалях без стырна, безь вятрылаў і асобнага чалавека, і ўсю дзяржаву.

Вера й любоў — гэта поўная салідарнасьць, еднасьць і ўзаемапаразуменьне для сапраўдных хрысьціянаў як *братоў і сёстраў* аднае Божае сям'і.

Толькі вера ў Ісусе Хрысьце й любоў адзін да аднаго — гэта тая сіла, што можа *аб'яднаць* беларускі народ, усе 10 мільёнаў чалавек, без падзелу на «сьвядомых» і «несьвядомых», дэмакратаў і лукашыстаў, каталікоў і праваслаўных — і мы, нарэшце, здолеем узвысіцца да *нацыі* пад бел-чырвона-белым сьцягам.

Пра *сьцяг*, мой браце, трэба сказаць асобна.

На пляне́це няма больш яркага й моцнага сымбалю пакуты й уваскрасеньня Хрыста, чым *бел-чырвона-белы* сьцяг, белая палатніна з крывёю ўкрыжаванага Ісуса. Мы носім на грудзях галоўны знак Божага адкупленьня — і робім выгляд, што гэта проста прыгожыя колеры або расказваем усім байку пра нейкага ваяводу зь бінтам. Ты думаеш — як далёка нам яшчэ да Беларусі — а адлегласьць, якую трэба пераадолець, складае ўсяго-ткі пярочкі далоні. 5—7 сантымэтраў — менавіта на такой глыбіні ў чалавечым целе знаходзіцца сэрца. Усё проста: ад значкі да сэрца. Пераадолець у сабе пярочкі далоні, дайсьці да Беларусі — гэта значыць, прыняць Хрыста. Гэта значыць, быць гатовым і да духовае свабоды, і да поўнае самаахвярнасьці.

Вось тут і становіцца ясна, што не абысьціся бяз самага непрыемнага: таго, што называецца *пачаць зь сябе*. Высьвятляецца — які жах! — што прычыну свайго няшчасьця і зло, заўважанае ў іншых, мы выношваем самі. Наша родная *апазыцыйная* пыха, нянавісьць, самазадаволенасьць, фарысэйства і ляното — вось яно, арганізаванае зло, якое не дае падняцца краіне.

Па-твойму, перадусім незалежнасьць? Як табе сказаць: «незалежнасьць» не тады, калі большасьць насельніцтва будзе ганарыцца, якія мы своеасаблівыя і баяцца Расеі; сапраўдная *незалежнасьць* — гэта калі людзі вераць у Бога і любяць Беларусь.

Юдэя ў І ст. н.э. таксама змагалася за нацыянальную незалежнасьць. Разгортваліся вызвольныя рухі, рабілі палітыку партыі фарысэяў і садукеяў, нават дзейнічалі тэрарысты-зілоты. Народ Божы быў упэўнены, што Мэсія ў першую чаргу вызваліць сваіх дзяцей з-пад паганскага Рыму. І прыйсьця Хрыста, які казаў пра веру й любоў, папросту не заўважылі.

Нашая нацыянальная дэмакратыя канца XX ст., як і спроба пачатку стагодзьдзя, засталася, на жаль, толькі прыгожай легендай. Канцэпцыя нацыянальнае ідэі, «*нацыянальная дзяржава — духовае Адраджэньне*», на практыцы была зьведзеная да чыста сымбалічнае *беларусізацыі*. Бо беларусізацыя бяз Бога — гэта *пустое*.



БЕЛАРУСКАЯ ФОРМА — дзяржава й нацыянальная спэцыфіка, мова й культура — прызначаныя для ХРЫСЬЦІЯНСКАГА ЗЬМЕСТУ. *Беларуская форма — хрысьціянскі зьмест* — такая формула найбольш проста й ёміста выражае сутнасьць духовага Адраджэньня й самое нацыянальнае ідэі.

Знаеш, часам такое ўражаньне, што БНФ ужо сваю ролю выканаў. Камунізм разбураны, штуршок да Адраджэньня краіну ўзрушыў — і вось яна, моладзь, што адгукнулася. Цяпер — наступны этап, вырашальны. Беларускі *прарыў да Бога*.

Імкліва набліжаецца час тых, каму сёньня 15-25 гадоў. Моладзь ужо ў эпіцэнтры падзеяў і на хвалі грамадзкіх чаканьняў. Нас ня так многа. А Беларусь — гэта 10 мільёнаў чалавек, 200 тысячаў км² — і па самы далягляд вакол цябе людзі, якія *ня вераць*. За намі — толькі Госпад Бог, пад нагамі — зямля, што стогне праз сон, а перад намі — пытаньне: ну як, мы гатовыя?

Калі НЕ — што ж, тады давай рыхтавацца да новых ударэў ілбом аб сьценку — зь нянавісьцю й помсьлівай злосьцю да Лукашэнкі, міліцыянтаў, саўкоў, калег-дэмакратаў. Эфэкт ужо бачылі — гэта *пустое*.

Калі ТАК — значыць, Магутны Бог адкрые нам і магчымасьці, дасьць і людзей, і пэрспэктыву, і грошы, і ўздым Беларусі — прычым такі, якога мы з табою не ўяўлялі: ад захапленьня заступіць дых. *Малады Фронт* — гэта атмасфэрны фронт Духу й любові, фронт салідарнасьці, веры, братэрства пад сьцягам Хрыста.

Некалькі важных момантаў дапамогуць табе зразумець увесь размах ідэі.

Па-першае, *Расея*. Мы ўвесь час панічна баімся Расейскае імпэрыі. Нас цягне на паўстанцкую нянавісьць і самапальную партызанку — але велізарнай вайсковай і спэцслужбовай сіле супрацьстаяць яе ж мэтадамі бессэнсоўна. Слабіна спустошанае камуністычным атэізмам імпэрыі ў тым, што яна духова нямоглая, што яе трымаюць страх, гвалт і ксэнафобія. З сусьветнай расейскай пагрозай можна справіцца адно тады, калі ажыцьцявіць глябальны духовы прарыў у самую Расею. Хрысьціянскі рух *на Маскву*, прычым менавіта зь Беларусі, будзе самым магутным ударам у сэрца імпэрыі «трэцяга Рыму». Выратаваць Расею духовай экспансіяй прасьвятленьня й пропаведзі — гэта табе не панічна-палітычныя ўцёкі ў NATO. Бо Расея, сапраўды *хрысьціянская*, адкрытая Богу — гэта і бясьпечная дэмакратыя, і вялікая культура, і спакой для ўсяго сьвету.

Згадай, менавіта ў Беларусі вырашаліся ключавыя пытаньні паўстаньня й распаду Расейскае імпэрыі: яшчэ з часоў Полацку, з часоў стратэгічнага эўразіяцкага супрацьстаяньня Маскоўшчыны з ВКЛ, праз страшныя войны XVII ст. — аж да І зьезду РСДРП, гарлавіны ІІ сусьветнай. Да трыюмфальнае Белавескае пушчы, пасьля якой сталіцай СНГ становіцца Менск, а ў ім — тут жа — на поўны рост падымаецца прывід тае самае Імпэрыі зла.

Таму *ня бойся Расеі*. Мы абавязкова выстаім і, можа быць, збавім ад зла яе — з Богам.

Другое. Хачу папярэдзіць: зараз мы з табой гаворым пра рэчы, зь якімі ніхто й ніколі не жартаваў. У Хрысьце табе давядзецца пакінуць многія справы, якія сёньня здаюцца абавязковымі: акажацца, можна бязь іх. Будзе балюча пераломваць самога сябе й брыдка выграбаць з уласных духовых правалаў грэх. Але гэта здасца дробязямі ў параўнаньні з найвышэйшай свабодай, акіянам любові й радасьцю спазнаньня волі Божае. Ты пабачыш, што Бог падрыхтаваў тваёй краіне, і табе давядзецца шточас зазіраць у захапленьні.

Зрэшты, каб распавесьці больш падрабязна, давялося б перапісаць усю Біблію. З часоў Эўфрасіньні й Скарыны аж да сёньня ў беларусаў адзіны Асноўны Закон без паправак і дапаўненьняў — кніга № 1, Сьвятое Пісаньне. Унівэрсальны настольны падручнік PR і прыкладное палітыкі, малы й вялікі канспіратар, твой дзёньнік-2000.

*Верыш* у Бога? *Любіш* Беларусь? *Гатовы* з гэтым ісьці да людзей? Калі тройчы «так» — то «не разьбіць. не спыніць, не стрымаць» сказана пра цябе.

А пакуль — у касьцёлах, дзе тысячы людзей славяць Бога па-беларуску, у местачковых праваслаўных цэрквах, дзе пачынаюць прапаведваць *на мове* прыхаджанам, у малітоўных дамах кальвіністаў, баптыстаў, эвангелістаў, дзе дух свабоды й беларускай сьвядомасьці — вось дзе *жыве Беларусь*.

Мяркую, сэнс ты ловіш.

Даруй, што пішу сьпехам. Справа аграмадная, сказаць можна шмат, а рабіць трэба хутка. Што ж да *выбару* — глядзі сам: воля твая. Адно прашу, не забывайся: у гэты момант Госпад на нас з табою разьлічвае.

Трэ будзе дапамога — зьвяртайся. Будуць пытаньні — пішы: 220005, Менск, Варвашэні 8, Управа БНФ.

З Богам!

**Твой брат Павал Севярынец,**
**старшыня Маладога Фронту**

менскія нетры

# ПРА «БАТОН» І ПРА ТРАМВАЙ

Звыклыя паліўна-энэргетычныя крызы ды нечаканыя падвышэньні коштаў на «растаможку» хоць у каго адаб'юць ахвоту набываць асабістую «Антылёпу-Гну», таму сёньня як ніколі відавочна выявілася неабходнасьць існаваньня грамадзкага транспарту — асабліва ў такім вялікім месьце, як Менск, дзе, натуральна, прадстаўленыя ўсе ягоныя дэфініцыі, далёка не раўназначныя паводле карысьці і ўплыву на выгляд гораду. Так, напрыклад, мэтро, якое з часоў, калі Машэраў ледзьве не ўласнаручна загнаў першую палю ў ягоны падмурак, зрабіла частку «цэнтральных» аўтобусаў у пэўным сэнсе самадастатковымі — спыніўшы тым самым іх эвалюцыю (пра што сьведчаць рэліктавыя экзэмпляры, якія можна сустрэць на 19-м, 57-м, 69-м або 53-м аўтоб...ных маршрутах), — амаль не рэалізавала сябе ў кантэксьце места, засталося нябачным: пра яго існаваньне сьведчыць толькі пэрыядычная вібрацыя глебы ды слупкі-сьветлячкі з двухсэнсоўнай літарай «М» на ўваходах.

Тралейбус, зь ягонай звычкай плаўна кратацца і рэзка спыняцца (на што спрэсаваная шмат'ярусная чалавечая маса ў салёне азываецца устойлівым выразам «дровы вязеш?», які пад канец працоўнага дня ператвараецца з пытальнага ў сьцьвярджальны), наадварот, настолькі зьліўся з гэткім самым, як ён сам, шэра-блакітным навакольлем, што яго натужнае выцьцё ўспрымаецца як адмысловы гукавы сыгнал, дзеля вычляненьня яго з паўсоннае менскае рэчаіснасьці. «Рагаты», «электрашафа», «батон» — гэта далёка ня поўны пералік ласкавых найменьняў, якімі яго надзяляюць аўтааматары, чыя вялікая і сьвятая нянавісьць да тралейбусаў не паддаецца разумоваму аналізу.

Але найбольш увагі менчукі (вазьміце хоць Аркадзя Куляшова, хоць Адама Глёбуса) заўсёды надавалі трамваю — гэтаму жывому ўвасабленьню чалавечае цывілізацыі — яскрава-безгустоўна размаляванаму вагону, дзе заўсёды скразьняк (старыя мэталёвыя ваканіцы скрывелі і не зачыняюцца як сьлед), дзе калоціць і балюча кідае. Вагону, які рухаецца толькі наперад (а пасьля разварочваецца — і зноў наперад), і кіраваць якім можна пры дапамозе лома. Тут, відаць, адыгрывае сваю ролю звычка: трамвай — самы стары сярод усіх грамадзкіх транспартных сродкаў у Менску. Нават з выгляду (калі бачыш надпіс «Менскаму трамваю — 70 год», здаецца, што ён тычыцца менавіта *гэтага* трамвая). У іншых «трамвайных» беларускіх местах — Віцебску, Наваполацку — рэліктавая чырвона-жоўтая парода зводзіцца нашмат хутчэй. Трэба зрабіць усё, каб хоць у Менску яна захавалася. Няхай бегае. Няхай звоніць. Можа вершаў добрых больш будзе пісацца.

**Андрэй Скурко**

Можа, хопіць займацца самападманам? Скінь падраны кафтан беларускасьці! Абірай сапраўднае адраджэньне! Žyvie VKL — naša kraina! А/с 124, 246012, Гомель.

**Спадар ё дух;**
**а йдзе дух Спадароў, там свабода.**
*Беларуская Эвангельская Царква.*
Штонядзелю ў Менску а 17-й гадзіне — вул. Любімава 21-56, тэл.: 270-89-87.
У Асіповічах аб 11-й гадзіне — вул. Ленінская 40, тэл.: 20-840

Фота Зянона Пазьняка

паштовая скрынка

**Пятру К.** зь Берасьця. *«Наша Свабода» зарэгістраваная, але, каб пачаць выходзіць, ім трэба знайсьці сабе «юрыдычны адрас». Тымчасам на Новы год у менскай рэстарацыі «Белая Вежа» праводзілі рэклямную акцыю «Нашай Свабоды»: сп.Харанека паднімаў 40-кіляграмовую бочку зь півам замест гіры. Узьняў ён яе 3150 разоў.*

**Барысу С.** з Іскры. *Пад «сатанінскімі знакамі» Вы, трэба думаць, разумееце тыя зорачкі, што абазначаюць пачатак вершаў на старонцы «Варштаты». Аднак жа, пяціканцовыя зорачкі ніяк нельга лічыць нейкім д'ябальскім знакам. Скажам, пяціканцовыя зоркі ёсьць у гербе Італіі, на зямлі якой стаіць Ватыкан, на сьцягу ЗША. Мяркуем, аднак, што сатанінства сядзіць у душах, а ня ў целах, і выяўляецца ўчынкамі, а ня сымбалямі.*

**Руслану Р.** з Баранавічаў. *Як для кароткага апавяданьня, замала дзеяньня, канфлікту, інтрыгі, нечаканасьці. Як для сагі ці казкі, задоўга і залітаратурна. Ад тэксту трэба адразаць усё, што нельга не адрэзаць.*

**Сяргею Г.** зь Берасьця. *«Нечакана поле скончылася». Гэтак не бывае. «Чысты і ідэальны юнак Міхась у войску сутыкаецца з чэрствасьцю і хамствам. Яго мучыць асілак-«дзед» Калян. Неяк пад раніцу Каляна знаходзяць у койцы з нажом у грудзях. Міхась уцякае і бяжыць полем і лесам», — вось кароткі зьмест Вашага апавяданьня. Усё тут правільна. А так не бывае.*

**Анатолю Г.** зь Менску. *Мы схіляем галовы перад тым, што Вы не баіцёся такія думкі сваім імем падпісваць.*

**Групе работнікаў** гуты «Кастрычнік» зь Елізава. *Абвінавачаньні, пра якія Вы пішаце, вельмі важкія — калі сапраўды скрадзена 20 кг плаціны. Расьсьледаваць гэткія абвінавачаньні мы можам толькі тады, калі ліст будзе не ананімным.*



# «ПЕРАПІС» — ТАТАЛЬНЫ ПАДМАН?

***Сэнсацыйныя разьлікі доктара Каўзы: беларуская нацыя зьнікла***

Даўні сябар аўтара і рэдакцыі, д-р Ганорыс Каўза (Dr.Honoris Causa, http://www.cri.coe.us) з унівэрсытэту Більля (Кран-Мантана, ЗША), шчыры прыхільнік і віртуальны саўдзельнік адраджэньня Беларусі, вывесіў на сваім інтэрнэтаўскім сайце новыя сэнсацыйныя вынікі сваіх навуковых пошукаў.

З дапамогаю кампутару і пэўнага амэрыканскага дасьледчага інстытуту, у якім сабраныя ўсе тэлефонныя даведнікі сьвету, д-р Каўза ўласным арыгінальным спосабам параўноўваў статыстычныя зьвесткі апошняга перапісу насельніцтва і апошніх тэлефонных даведнікаў. Былі адбіраныя і падлічваныя ўсе прозьвішчы, што цалкам адпавядалі нацыянальнаму паходжаньню, напрыклад, Ліцьвінчук, Маскалёў, Хохлік, Лях, Швед, Палевікова і г.д., а ўжо на іх падставе разьлічваўся нацыянальны склад насельніцтва ў адсотках. Які ж вынік атрымаў вельміпаважаны прафэсар? Што тычыцца беларускіх фінаў, карэйцаў, амхара і нават расейцаў, атрымалася прыстойная карэляцыя (што значыць супадзеньне) з вынікамі афіцыйнага перапісу. ***А вось зь беларусамі атрымалася ня проста несупадзеньне, але сапраўдная сэнсацыя — беларусаў няма.*** Куды ж зьніклі гэтыя таямнічыя жыхары балотаў? І як жа былі атрыманыя т.зв. вынікі г.зв. «перапісу» насельніцтва? А самае галоўнае, чаго маем чакаць зараз ад нацыянальнай большасьці — ліцьвінаў і найбольш агрэсіўнай зь меншасьцяў — сакуноў?

Д-р Каўза запрашае да дыскусіі на гэтую балючую тэму ўсіх сьведкаў, удзельнікаў і зацікаўленых новаадкрытым фэномэнам.

Мы тут прыводзім параўнальную табліцу нацыянальнага складу насельніцтва паводле вынікаў кампутарнага дасьледаваньня і зьвестак г.зв. «перапісу». Кожны можа параўнаць.

| № | Нацыя | Паводле г.зв. «перапісу», % | Паводле аналізу прозьвішчаў, % |
|---|---|---|---|
| | Г.зв.Беларусы | 81 | 0 |
| 1а | Ліцьвіны | 0 | 42 |
| 1б | Палешукі | 0 | 11 |
| 1в | Крывічы | 0 | 9 |
| 1г | Палевікі | 0 | 4 |
| 1д | Gudas | 0 | 3 |
| 1е | Сакуны | 0 | 1 |
| 1ж | BaltruSis | 0 | 1 |
| 2 | Палякі | 4 | 12 |
| 3 | Расейцы | 11 | 6 |
| 4 | Літоўцы | 0 | 4 |
| 5 | Украінцы | 2 | 2 |
| 6 | Латышы | 0 | 1 |
| 7 | Іншыя | 2 | 4 |
| 8 | Агулам | 100 | 100 |

**Юзік Лабэцкі**

прыватныя абвесткі

**вітаньні**

**Дзе згубіўся** польскі мой вятр? Вяртайся ва ўлоньне віцебскае, беларускае. Дзьвінскі сьвітанак

**Ізгадай мні**, мій миленький, Два рази на дниңу, А я тебе ізгадаю Сім раз на годину. Хвароба каханьня

**кантакты**

**Магілёўскія патрыёты!** Малады Фронт чакае вас. За намі будучыня! Будзьма разам! Магілёў, вул.Ленінская, 27-50

**Lićvin**, dałučajsia da svaich! Razam my adrodzim VKL, našu Baćkaŭščynu, naš ład. A/s 124, 246012, Homiel

**ідэі**

**Пэўна, стваральнік** эталёну «Пагоні» бачыў у вершніку свайго сына. А я бачу чалавека, якога кахаю. Паштальён Свабоды

**Захаваем Беларусь!** Адродзім Беларускае! Абаронім іх! Усё гэта зробіш ты, уступіўшы ў «Касінеры». Салігорск, вул. Маладзёжная, 7-75

**Сьвяточна аздобім** мерапрыемства, прысьвечанае суду ці пакараньню асобы, якая выконвае абавязкі ППРБ, за дзейнасьць, што падпадае пад артыкул Рэспублікі Беларусь «Здрада Радзіме». Фольк-гурт «Дзяньніца»

**Прымем запрашэньне** да ўдзелу ў фэстывалі «Привет, немытая Россия!». Фольк-гурт «Дзяньніца»

**Добрыя тэксты,** незвычайнае афармленьне, знаёмыя імёны — гэта Калядны нумар газэты «Наша ніва існінная». Ад Вас: 35 руб., капэрта з маркаю й купон б/а. А/с 169, 220030, Менск

**«Наша ніва** існінная» — гэта не міраж. Мы выходзім і выходзіцьмем. Чытайце апошні нумар. Ад Вас: 35 руб., капэрта з маркаю й купон б/а. А/с 169, 220030, Менск

**кнігі, музыка**

Набуду вялікія **польска-расейскі і расейска-польскі слоўнікі**. Тэл.: 256-71-05, Сьвятлана

**Ахвотныя набыць «ARCHE»** ў Берасьці ды ваколіцах, зьвяртайцеся! Тэл. у Берасьці 20-13-95

Дашліце, калі ласка, **песьні беларускіх бардаў з акордамі**. 213815, Бабруйск, зав. Каапэратыўны, 42

**Куплю цымбалы**. Тэл.: 262-11-19; пэйдж.: 211-00-00 аб. 80699

**жытло**

**Бяздомны жабрак** Яўген Скочка здыме 1-2-пак. кватэру. Тэл.: 220-98-04 (Яўген) ці: 265-05-81 (Вэраніка)

**праца**

**Прапануем в/а працу** ў хаце (200 у.а.). Гэта Вы можаце! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: Менск-89, а/с 122

**Дасьведчаны фатограф** запрашае недасьведчаную фотамадэльку да супрацоўніцтва на некамэрцыйнай аснове. 246027, Гомель-27, а/с 89

**шукаю працы**

**Шукаю працы перакладчыка** або ў галіне рэклямы. В/а (сацыяльная псыхалёгія), PC, ангельская й нямецкая мовы, досьвед працы ў выдавецтве (пераклад літаратуры і тэхнічных тэкстаў). Тэл.: 227-96-02 (раніцай і ўвечары)

**Ангельская мова:** пераклады на беларускую і расейскую, у тым ліку літаратурныя. Хатнія заданьні, кантрольныя. Тэл.: 227-96-02

**Vyjšau novy albom samaha surjoznaha underground-ultra-metal hurtu «Parasitize» — «Antagonaize». Pa pytańniach nabyćcia ci raspaŭsiudžvańnia žviartacca na tel.: 7-52-34 (Navapołacak)**

**КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050. Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная у 1906, адноўленая у 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Засназальнік Павал Жук. **Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**

© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3757. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны у друк 21:05, 03.01.2000. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 84. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.